Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 16 (4765) 18 красавіка 2014 г.

**Дарагія і ўзлюбленыя ў Хрысце Уваскрэслым Праасвяшчэнныя архіпастыры, пачэсныя прасвітары і дыяканы, набожныя інакі і інакіні, богалюбівая паства Беларускай Праваслаўнай Царквы!**

Сардэчна віншую вас са святам свят — Пасхай Гасподняй!

У гэты збаўчы для свету, светлазарны дзень мы, як і ўсе папярэднія нам з часоў апостальскіх пакаленні хрысціян, зноў і зноў з невымоўнай падзякай Богу, якая выліваецца з сэрцаў нашых, з духоўным лікаваннем вітаем адзін аднаго Пасхальным воклічам: Хрыстос уваскрэс!

Толькі два словы, але якая невераґодная ў іх сіла! Яны ўскалыхнулі ўвесь свет, разбурылі браму пекла дашчэнту і стварылі вялікую і непераможную Хрысціянскую Царкву, падаючы ўсім яе дзецям жывую веру, духоўна-маральныя Евангельскія каштоўнасці і дабрадатныя духоўныя сілы, здольныя вернуючага ў Хрыста чалавека ўзнесці на вышыню духоўнай дасканаласці.

Сэрцы нашы напоўнены сёння радасцю Уваскрэсення Хрыстовага. І кожны можа падзяліцца гэтай радасцю пра Уваскрэслага Госпада нашага Ісуса Хрыста — і з блізкімі, і з дальнімі: навучыцца быць з тымі, хто навокал нас, добрымі і міласэрнымі, сумленнымі і добразычлівымі, здольнымі і гатовымі пайсці з імі на любыя выпрабаванні; сагрэць святлом Божай любові састарэлых, адзінокіх, хворых і тых, хто па нейкіх абставінах пазбаўлены магчымасці падзяліць Пасхальную радасць з тымі, хто ў храме. Такія справы хрысціянскай любові змяняюць і нас, і наваколны свет.

Жыць паводле праўды і запаведзяў Божых — пад сілу кожнаму шчыра веруючаму чалавеку. Звяртаючыся да нас, Усемагутны Гасподзь заклікае: «Прыйдзіце да Мяне, усе стружданыя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо Я лагодны і пакорлівы сэрцам; і знойдзеце спакой душам вашым. Бо ярмо Маё прыемнае, і цяжар Мой лёгкі». Збаўца свету не патрабуе ад нас нічога непасільнага. Міласэрны Гасподзь, любячы Сваё стварэнне, заўсёды з тымі, хто верує ў Яго, даючы ім моц, сілу і ўсё патрэбнае, каб несці жыццёвы крыж.

Уваскрэслы Хрыстос Збаўца няхай умацуе нас у веры і хрысціянскай набожнасці. Дабрадатнае святло гэтай збаўчай Пасхальнай ночы няхай напаўняе сэрцы нашы любоўю ў Хрысце Уваскрэслым і радасцю яднання з Ім — радасцю чаканага намі бясконцага жыцця вечнага: Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс Хрыстос!

**Павел,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі**


Фота Кастуся Дробава

**«Хрыстус Уваскрос, Сапраўды Уваскрос!»**

**Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, дарагія вернікі, людзі добрай волі!**

Гэтым пасхальным заклікам вітаю ўсіх вас у радаснае і збаўчае свята Уваскрасення Езуса Хрыста, калі мы адзначаем перамогу нашага Збаўцы над грахом, смерцю і злым духам. Гэтае свята паўтараецца кожны год, і мы ўжо так моцна прызвычаіліся да яго так, што нярэдка кажам: гісторыю ўваскрасення Хрыста даўно ведаем. Аднак на самой справе свята Пасхі — гэта не мінулая гісторыя. Яно заўсёды актуальнае і дае нам новую надзею нават насуперак надзеі. Сёння ва ўсіх хрысціянскіх святынях — каталіцкіх, праваслаўных і пратэстанцкіх — гучыць радаснае «Алелюя».

Пасхальная радасць пранікае ў нас да глыбіні сэрцаў, бо таямніца Уваскрасення з'яўляецца самай вялікай праўдай нашай веры і вакол яе канцэнтруецца як жыццё Касцёла, так і нашае асабістае. Пасха абвяшчае нам вельмі важнае пасланне, што ў Хрысце Укрыжаваным і Уваскрослым любячы нас Бог прыносіць нам збаўленне і дае новую надзею. Уваскрослы Езус не вызваляе нас ад зла павярхоўна і часова, але радыкальна. Мы ўсе, ахрышчаныя ў Езуса Хрыста, у смерць Ягоную хрысціліся, каб, як Ён уваскрос з памерлых, так і нам увайсці ў новае жыццё, — кажа святы апостал Павел. Жыццё без Бога і Божага закону; жыццё так, як быццам Бог не існуе; жыццё нязгоднае з маральнымі нормамі; тэрарызм і акты насілля; карупцыя і сацыяльная несправядлівасць; забойства ненароджанага жыцця і амаральнае выкарыстанне дасягненняў генетыкі і многае іншае — гэта не што іншае, як жудасныя знакі адсутнасці Бога ў нашым жыцці і адмовы ад веры ў Яго, якія нараджаюць пагарду і непрыманне іншага чалавека, ігнараванне яго правоў… Таму нам неабходна зрабіць усё магчымае, а перадусім маліцца, каб праўда ўваскрасення Хрыста стала рэальнасцю нашага жыцця, каб мы Бога не хавалі ў магіле, каб Ён быў у нашых сэрцах і каб мы жылі згодна з Божым законам, бо «Бог — наша прыстанішча і сіла, надзейная дапамога ў нядолі».

Таму сёлетняя Пасха — гэта наша супольнае свята, з якім віншую ўсіх хрысціян і людзей добрай волі і жадаю моцы Уваскрослага, Яго ласкі і супакою. Няхай у складанай рэчаіснасці сучаснага свету яна сапраўды стане ажыўляльным глытком свежага паветра, які вядзе да новага жыцця ва ўваскрослым Хрысце. Гэтыя свае пажаданні ўмацоўваю блаславеннем у імя Айца, і Сына, і Духа Святога. Амэн.

**Арцыбіскуп**
**Тадэвуш Кандрусевіч,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**


Das ist fantastisch!
7


Спадчына братоў Мамонічаў
12


«Гагарын» ад мастацтва
16

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка лічыць правільным рашэнне адрадзіць у Беларусі вытворчасць слуцкіх паясоў. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў гэта падчас візіту на Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства мастацкіх вырабаў «Слуцкія паясы». Сёння тут адноўлена ўнікальная тэхналогія ткацтва, якая раней існавала на слуцкіх мануфактурах. Аналагаў гэтай прадукцыі ў свеце няма.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народную артыстку СССР Алу Пугачову з юбілеем. «Вы — унікальная асоба, адна з найвялікшых зорак сучаснай эстрады, чый непадуладны ні павевам часу, ні капрызам моды талент заваяваў прызнанне мільёнаў паклоннікаў. Мы высока цэнім Вас як выдатную спявачку і нашага даўняга сябра, чыя творчасць карыстаецца вялікай папулярнасцю на беларускай зямлі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ У адпаведнасці з указам Кіраўніка дзяржавы вялікая група працаўнікоў розных сфер уганаравана дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь за шматгадовую плённую працу, узорнае выкананне службовых абавязкаў. У іх ліку — Зоя Літвінава, член грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў», заслугі якой адзначаны ордэнам Францыска Скарыны, Рыгор Белацаркоўскі — вядучы майстар сцэны Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, якому прысвоена ганаровае званне «Народны артыст Беларусі».

✔ У штаб-кватэры ЮНЕСКА ў межах мерапрыемстваў, прысвечаных 60-годдзю членства Беларусі, адбылася сустрэча міністра культуры Беларусі Барыса Святлова з Генеральным дырэктарам гэтай міжнароднай арганізацыі Ірынай Бокавай. У сустрэчы браў удзел Пастаянны прадстаўнік нашай краіны пры ЮНЕСКА Павел Латушка. Абмеркавана развіццё сумеснага супрацоўніцтва ў сферы культуры, адзначаны вялікі клопат беларускай дзяржавы пра ахову матэрыяльнай і нематэрыяльнай спадчыны.

✔ На свята Уваскрэсення Хрыстовага, якое сёлета каталікі і праваслаўныя будуць адзначаць у адзін дзень, у эфіры тэлеканалаў «Беларусь 1», «Беларусь 3», «Беларусь 24», «НТБ-Беларусь», а таксама Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё запланаваны шэраг спецыяльных трансляцый і праграм. У святочны дзень, 20 красавіка, у 8.40 гледачы пачуюць слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, а ў 8.50 — слова Мітрапаліта Паўла.

✔ Адразу дзевяць мультфільмаў з серыі «Для самых маленькіх» было прадстаўлена гледачам у сталічным Палацы мастацтва. Яны створаны студыяй у імя святога Іаана Воіна — творчай майстэрняй Свята-Елісавецінскага жаночага манастыра ў Мінску. Дзве работы з гэтай серыі — «Добрая карова» ды «Вялікая Казява і маленькая Казяўка» — дэманстраваліся на ХІХ Адкрытым расійскім фестывалі анімацыйнага кіно ў Суздалі. Але ўвесь зборнік паказаны гледачу ўпершыню.

✔ У Браціславе, у выставачнай зале «Дворана» Міністэрства культуры Славакіі, адкрылася сумесная выстаўка «Славацкія сустрэчы Янкі Купалы» ў межах рэалізацыі культурна-адукацыйнага праекта «Беларусь — Славакія. Дыялог культур». Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы прадставіў шэраг работ выбітных беларускіх мастакоў, якія прысвечаны асобе народнага паэта Беларусі і ілюструюць яго творы.

✔ Члены Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі разам з прадстаўнікамі іншых грамадскіх аб'яднанняў падчас рэспубліканскага суботніка прыводзілі ў належны выгляд тэрыторыю аднаго са сталічных паркаў. Плённа папрацавалі Аліна Легастаева, Дзмітрый Дземідовіч, Валерый Чудаў, Мікалай Кулецкі, Леанід Лукша, Юрась Нераток, Вольга Сакалова, Іна Фралова.

Падрыхтавала
**Міра ІЎКОВІЧ**

# Літаратура на арэне

Беларускі дзяржаўны цырк згуртаваў пад сваім купалам вядомых пісьменнікаў, мастакоў, маленькіх чытачоў, бібліятэкараў і артыстаў. Чарговае прадстаўленне? Не — цырымонія ўручэння літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі, якой адзначаюцца лепшыя дзіцячыя творы, а таксама — прэміі галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» Уладзіміра Ліпскага.

Спачатку госці ўрачыстага мерапрыемства трапілі на экскурсію па цырку, прайшліся па таямнічых калідорах, завіталі на арэну і ў музей. Маленькім слухачам сціпла, але вобразна расказалі гісторыю галоўнай «фабрыкі» добрага настрою краіны, а потым — пра Васіля Вітку, які заснаваў часопіс «Вясёлка» ў 1957 годзе, стаў яго першым галоўным рэдактарам і кіраўніком амаль на 17 гадоў. Беларусы ведаюць і любяць яго як чарадзея мастацкага слова і добрага казачніка.

Лаўрэатамі прэміі імя Васіля Віткі, уладальнікамі ганаровага медаля і дыплома сталі чатыры дзеячы беларускай культуры. Анатоль Клышка, пісьменнік, адзін са старэйшых аўтараў часопіса «Вясёлка», стваральнік «Буквара» для малодшых школьнікаў, атрымаў узнагароду ў намінацыі «Паэзія». Алесь Карлюкевіч, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда», чые казкі пра вясёлага Шубуршуна вельмі палюбіліся дзецям і іх бацькам, быў адзначаны ў намінацыі «Проза». Лепшым мастаком стаў Віталь Дударэнка, які афармляў старонкі не толькі «Вясёлкі», але і іншага праекта рэдакцыі — часопіса «Буся».


Фота Кастуся Дробава
Анатоль Клышка.

Асобны дыплом атрымала Людміла Захарэвіч, бібліятэкар, метадыст па працы з дзіцячым чытачом, за арганізацыю і правядзенне свят «55 колераў Вясёлкі» у Барысаўскім раёне.

Галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі шчыра адзначыў, што кожны нумар яго выдання — гэта новы крок да чытачоў, усплёск натхнення і любові да дзяцей. «У «Вясёлкі» больш як 11 тысяч падпісчыкаў, і я глыбока перакананы, што кожнае выданне чакаюць цэлымі сем'ямі. Што датычыць сённяшняга мерапрыемства, то атрымаць дыплом і медаль імя Васіля Віткі — вялікі гонар. Хочацца верыць, што гэтая прэмія дасягне высокага ўрадавага ўзроўню», — лічыць пісьменнік. На яго думку, пісаць для маленькіх — гэта асобы дар, стан душы, тонкай і спачувальнай, бо каб сесці і напісаць для дзяцей, трэба іх палюбіць і зразумець.

З мэтай падтрымкі юных аўтараў Уладзімір Ліпскі стварыў і сваю ўзнагароду. Па яго словах, рэдакцыя выбірае самых таленавітых дзяцей, якія друкаваліся ў «Вясёлцы» на працягу года, тых, хто лепш за ўсіх валодае беларускім словам. Прэміі галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» атрымалі юныя пісьменніцы Лізавета Клімковіч і Надзея Місякова.

Сустрэча ў цырку прайшла не горш, чым чарговая прэм'ера, бо ў зале пад гучныя апладысменты перад здзіўленай і захопленай публікай выступалі жанглёры, клоўны, асілкі, спявачкі і гімнасткі. Сумны настрой? Не, пра яго ніхто не чуў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Адзначыць славянскія таленты

У Расійскім цэнтры навукі і культуры ў Мінску былі падведзены вынікі традыцыйнага літаратурнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп», на які паступіла больш як сотня работ ад 44 удзельнікаў.

Творчыя работы студэнты 13 факультэтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта дасылалі на адрас Фундаментальнай бібліятэкі БДУ, якая разам з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і культурна-асветніцкім грамадскім аб'яднаннем «Наша Русь» выступіла арганізатарам гэтага свята.

Працы студэнтаў размяркоўваліся па пяці намінацыях: «Паэзія», «Проза», «Літаратура для дзяцей», «Драматургія», «Сатыра і гумар». Міхась Пазнякоў, старшыня пісьменніцкага журы, адзначыў актыўную грамадзянскую пазіцыю і высокае пачуццё патрыятызму, якія адчуваліся ў вершах на тэму «З чаго пачынаецца Радзіма». Лаўрэатамі конкурсу ў гэтай тэме сталі Аліна Карпіцкая, Таццяна Купрыянец, Ігар Пятровіч, Кацярына Роўда і Вераніка Пуставіт. Лепшымі сярод тых, хто дасылаў свае працы на ваенную тэматыку, прызнаныя Марына Ляшкевіч, Кацярына Роўда, Ігар Пятровіч, Таццяна Купрыянец, Ганна Шыдлоўская.

Кажуць, у кожным сапраўдным творы ёсць свая музыка. Наколькі яна прагучала ў прозе, спрабавала вызначыць журы. Найбольш уразілі творы Наталлі Баламут, Аліны Карпіцкай, Настачкі Жухаравай і Аляксандра Хацкевіча. Але і тыя празаікі, якія не сталі лаўрэатамі, парадавалі цікавымі філасофскімі разважаннямі, псіхалагічнымі назіраннямі, літаратурнымі знаходкамі.

Лізавета Чахоўская і Юлія Кірэева ўдала паспрабавалі сябе ў дзіцячай літаратуры. «Я хацела, каб мае казкі заклікалі маленькіх чытачоў да дабрыні і міласэрнасці», — зазначыла Лізавета падчас тэлеперадачы «Добрай раніцы, Беларусь!», куды яе запрасілі з нагоды Дня дзіцячай кнігі як пераможцу конкурсу ў жанры «Літаратура для дзяцей».

Вольга Ропат была адзінаю ўдзельніцай, якая выступіла ў намінацыі «Драматургія» з міні-п'есай «Счастливая жизнь», дзе закранула тэму каштоўнасці чалавечых зносін.

Самая актыўная ўдзельніца конкурсу, Кацярына Роўда, выступіла ў намінацыі «Паэзія» адразу ў трох тэмах і ў дзвюх з іх аказалася адной з лепшых.

Спадзяёмся, што ў пераможцаў літаратурнага конкурсу сярод студэнтаў БДУ ёсць рэальны шанс праз некаторы час убачыць свае творы надрукаванымі ў кніжнай серыі «Мінскія маладыя галасы», а таксама на старонках айчынных часопісаў.

**Ірына ШКІРОНАК**

## ТэлеЛіМ

# Святкуем юбілей Шэкспіра!

23 красавіка спаўняецца 450 гадоў з дня нараджэння англійскага класіка Уільяма Шэкспіра. У гэты дзень у 12.30 на тэлеканале «Беларусь 3» будзе прадстаўлена дакументальная кінастужка «Загадкі літаратуры», якая адкажа на пытанне, што вось ужо некалькі стагоддзяў хвалюе літаратуразнаўцаў: ці з'яўляецца Шэкспір аўтарам сваёй спадчыны. Акрамя таго, у 22.35 можна будзе пабачыць экранізацыю знакамітай шэкспіраўскай п'есы «Атэла». Сюжэт, напэўна, вядомы кожнаму, а ролі ў пастаноўцы выконваюць Сяргей Бандарчук, Ірына Скобцава, Андрэй Папоў, Уладзімір Сашальскі.

А вось пра беларускую літаратуру ў гістарычным кантэксце і айчынную гісторыю ў літаратурным аздабленні паразважаюць з госцем праграмы «Дыяблог. Пра літаратуру» — перакладчыкам, гісторыкам і пісьменнікам Міхаілам Галдзянковым — заўсёдныя вядучыя праекта Таццяна Сівец і Стэла Чыркова. Далучыцца да дыялогу можна ў аўторак — у 9.15 і 22.00.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Новае дыханне верша

Сустрэча ў межах сумеснага праекта Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі «Творчае сяброўства», што адбылася ў Доме Коласа, была прысвечана супрацоўніцтву і сутворчасці айчынных паэтаў з кампазітарам, паэтэсай, спявачкай Вольгай Патрый.

Галоўная гераіня імпрэзы невідушчая ад нараджэння, аднак гэта не перашкаджае яе творчасці, насычанай моцнымі пачуццямі і жывымі вобразамі.

Вядучая праекта Наталія Касцючэнка ва ўступным слове адзначыла: творчае сяброўства грунтуецца не толькі на агульнасці інтарэсаў у сумеснай справе, але і на асалодзе, прыязнасці, якую атрымліваеш ад такіх стасункаў. Мецць сябра — амаль тое самае, што мецць сям'ю, дом.

Для паэтэсы Лізаветы Палеес лірыка пераплятаецца з музыкай. Прадстаўўшы публіцы некалькі сваіх твораў, яна перадала слова В. Патрый. Іх творчаму сяброўству ўжо амаль чвэрць стагоддзя. Вольга выканала шэраг песень, створаных ёю на вершы Л. Палеес. У гэты вечар гучалі яе творы на словы Валянціны Паліканінай і Міхася Пазнякова ды песня «Беларусь» уласнага аўтарства. Таксама слова бралі паэт, перакладчык Мікола Шабовіч, паэтэса Ала Левіна і ўрач-кардыёлаг, лаўрэат XI Усерасійскага волжскага фестывалю-конкурсу выканаўцаў рускага і цыганскага рамanса «Рамонс голас осенний» (г. Кінешма) у намінацыі «Аматарскае выкананне» Наталля Клімковіч.

**Яна ЯВІЧ**

# У нябёсах вясны



Фота Віктара Макоўскага.

Назва кнігі выбраных твораў Уладзіміра Мазго «У нябёсах вясны», што папоўніла серыю «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», падчас традыцыйнага свята «Сакавіны-2014» яго ўдзельнікамі і гасцямі ўспрымалася сімвалічна. Вясну, што патрапляе пад вызначэнне «Сакавіны», на сваю родную зямлю сямнаццаць гадоў таму і прынёс Уладзімір Мазго. Гэта яму, ураджэнцу Зэльвы, а цяпер ужо і ганароваму грамадзяніну Зэльвенскага раёна, прыйшла думка пра тое, што будзе вельмі добра, калі па вясне змогуць сабрацца разам тыя, хто шануе родную мову, любіць літаратуру, паважліва ставіцца да нацыянальнай культуры. Гэтую цудоўную задумку Уладзіміра Мінавіча ўхвалілі тагачасныя зэльвенскія ўлады, а цяперашнія годна працягваюць.

Прыемна, што сёлета на сустрэчы прысутнічала шмат маладых людзей. Гэта начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Зэльвенскага райвыканкама Галіна Раманчук парупілася, каб запрасіць і школьнікаў з раёна. Усіх, хто сабраўся ў зале, чакала свята, якое паядноўвае, выклікае станоўчыя эмоцыі.

Самому віноўніку ўрачыстасці сёлета споўнілася 55 год. Пра гэта таксама згадвалася падчас імпрэзы. А яшчэ гаварылася пра важкасць ягоных мастакоўскіх набыткаў.

Слова было дадзена і самому У. Мазго, які пранікнёна і шчыра гаварыў пра любоў да свайго роднага краю, прачытаў некалькі вершаў, добрым словам прыгадаў тых, хто некалі дапамагаў яму ўваходзіць у літаратуру. Яны таксама прыехалі разам з Уладзімірам Мінавічам у Зэльву — першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, рэдактар аддзела навукі, крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя» Алесь Марціновіч, якія пазней таксама ўзялі слова. Сёння ўжо сам У. Мазго падтрымлівае тых, хто пачынае літаратурную творчасць. Прынамсі, не без ягонай дапамогі ў Выдавецкім доме «Звязда» пабачыла свет кніга вершаў намесніка старшыні Зэльвенскага райвыканкама Валянціна Семянякі «Зорка залатая», у шчырасці, непасрэднасці паэтычных радкоў якога прысутныя пераканаліся падчас ягонага выступлення.

На свяце выступілі дырэктар сярэдняй школы № 2 Зэльвы (выпускніком якой з'яўляецца У. Мазго) Алена Лукашэвіч, члены літаратурнага аб'яднання «Зоры над Зэльвай» Святлана Літвінчык, Ніна Поршнева, Ганна Вілісава, якія прачыталі свае вершы. Шмат радасці прынеслі самадзейныя артысты, асабліва самыя маленькія, з ясляў-саду № 4. Зала «ўзарвалася» апладысментамі пасля выступлення вядомага кампазітара Алега Елісеенкава, які выканаў папулярныя песні, у тым ліку і напісаныя на вершы У. Мазго.

**Язэп ДОЛЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**23 красавіка** — на ўрачыстую цырымонію ўручэння літаратурнай прэміі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ «Адкрыццё года» (за 2013 год), якая пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 17-й гадзіне.

**24 красавіка** — на «круглы стол» «Армія і літаратура», прысвечаны юбілею Студыі ваенных пісьменнікаў пры Цэнтральным доме афіцэраў. Мерапрыемства адбудзецца ў Цэнтральнай бібліятэцы ЦДА (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 16-й гадзіне.

**25 красавіка** — у літаратурны клуб «Шчырасць» на творчы вечар паэта, празаіка і мастака Сяргея Давідовіча. Імпрэза пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23). Пачатак а 16-й гадзіне.

# Маладыя галасы чуваць здалёк

Сапраўднае свята адбылося ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 17. Тут узяў старт фестываль маладой паэзіі. Вядучая імпрэзы, паэтэса Іна Фралова, зазначыла, што свята невыпадкова распачалося менавіта ў красавіку: гэты месяц — сярэдзіна вясны, а вясна асацыіруецца найперш з маладосцю і паэзіяй.

Акрамя маладых паэтаў на фестываль завіталі айчынныя майстры мастацкага слова Сяргей Трахімёнак і Юрась Нератoк, а таксама доктар гістарычных навук, літаратуразнаўца, мастацтвазнаўца, акадэмік Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук, сакратар Саюза пісьменнікаў Масквы, галоўны рэдактар міжнароднага альманаха «Литературные знакомства» Лола Званарова і паэт, перакладчык, літаратурны крытык, намеснік галоўнага рэдактара гэтага ж выдання Рыгор Пяўцоў.

Трывалыя повязі яднаюць з нашай краінай Л. Званарову: яшчэ за савецкім часам яна падрыхтавала да выдання кнігу «Вирши» выбітнага славянскага асветніка XVII стагоддзя Сімяона Полацкага, што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1990 годзе. Пяру Лолы Званаровай належыць таксама шэраг артыкулаў, прысвечаных творчасці Сімяона Полацкага. Рыгор Пяўцоў прадставіў публіцы верш французскага паэта Гіёма Апалінэра «Мост Мірабо» — у арыгінале і ў сваім перакладзе на рускую мову, а таксама ўласны верш «Блоковский контрапункт».

Што ж да маладых творцаў, то ў гэты вечар публіка атрымала сапраўдную эстэтычную асалоду ад вершаў сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі Маргарыты Латышкевіч, Людмілы Клачко, Яны Явіч, Адама Шостака і Ганны Чумаковай, якая ператварыла сваё выступленне ў сапраўдны бардаўскі перформанс. Малады музыкант і кампазітар Сяргей Бутоўскі выканаў шэраг песень, створаных ім на вершы Л. Клачко. Са сваімі творамі выступілі пачынаючая паэтэса, аўтар зборніка вершаў «Льётся свет в моё окно» Кацярына Масэ і ўдзельніца літаратурнай студыі «Маліпаўскія галасы» пад кіраўніцтвам І. Фраловай Валерыя Ісаковіч. Слова бралі таксама ўдзельнікі паэтычнага конкурсу сярод студэнтаў БДУ «Славянскі калейдаскоп» Наталля Баламут, Аліна Карпіцкая і Таццяна Грыдзюшка.

Напрыканцы імпрэзы гледачы з дапамогай тайнага галасавання вылучылі трох лаўрэатаў фестывальнай прэміі з рамантычнай назвай «Паэтычная котка». Пасля падліку галасоў статуэткі котак атрымалі Ганна Чумакова, Маргарыта Латышкевіч і Людміла Клачко.

**Дана ХОДНІЧ**

## *Фоташтрых*




Першы чэмпіянат Беларусі па народных танцах і *Bollywood* адбыўся на сцэне канферэнц-залы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Ён праводзіўся пад эгідай Беларускай лігі танца па правілах IDO (*International Dance Organization*) і стаў афіцыйным адборам на чэмпіянаты свету і Еўропы. У танцавальным конкурсе бралі ўдзел больш як 200 індывідуальных танцораў і 16 танцавальных калектываў усіх узроставых груп. Лепшыя выканаўцы сярод пераможцаў у складзе зборнай краіны возьмуць удзел у Міжнароднай танцавальнай алімпіядзе ў Маскве.

**Наталі КУПРЭВІЧ, фота аўтара**

# Разам з «Вожыкам»

Днямі на факультэце беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя Максіма Танка адбылася сустрэча студэнтаў з супрацоўнікамі сатырычна-гумарыстычнага часопіса «Вожык». У мерапрыемстве бралі ўдзел галоўны рэдактар часопіса Юлія Зарэцкая, загадчык аддзела літаратуры Вераніка Мандзік, пазаштатныя карэспандэнты, а таксама студэнты і выкладчыкі факультэта.

За 74 гады сваёй дзейнасці часопіс неаднаразова перажываў творчыя ўзлёты і падзенні. Адметны і той факт, што на старонках «Вожыка» свае матэрыялы змяшчалі выбітныя літаратары: Я. Сіпакоў, Р. Барадулін, Б. Сачанка і многія іншыя. За ўвесь перыяд існавання ў часопісе сфарміравалася свая школа мастакоў-карыкатурыстаў.

Вядома ж, размова не абышлася без гумарыстычных гісторый. Вераніка Мандзік распавяла некалькі жартоўных выпадкаў з жыцця пісьменнікаў. Эстафету перанялі маладыя аўтары — пазаштатныя карэспандэнты часопіса Ганна Кіслушчанка і Ксенія Піўнева агучылі апублікаваныя ў «Вожыку» ўласныя творы. Да гумарыстычнай прозы жыцця далучылася і адпаведная паэзія.

Далейшая размова паміж супрацоўнікамі «Вожыка» і студэнтамі працягвалася ў сяброўскай атмасферы за кубачкам гарбаты.

**Вікторыя ГАБРУСЕВІЧ**

# І менеджары — па-беларуску!

Рэкламуючы беларускія тавары і прасоўваючы іх на сусветны рынак, айчынныя менеджары павінны ведаць мову народа, які іх вырабляе. А заадно і нацыянальную літаратуру, бо хто лепш можа ўславіць сваю краіну, чым не майстры прыгожага пісьменства! Паспрыяць таму закліканы і сустрэчы з сучаснымі беларускімі пісьменнікамі, якія пачалі ладзіць апошнім часам для гэтай катэгорыі студэнтаў у Дзяржаўным інстытуце кіравання і сацыяльных тэхналогій Беларускага дзяржуніверсітэта.

У якасці гасцей будучых менеджараў на першыя два выступленні выкладчыцай беларускай мовы Святланай Богуш былі запрошаны Алесь Гібок-Гібкоўскі і Анатоль Зэкаў. Пісьменнікі разважалі пра сучаснасць, выказвалі заклапочанасць духоўным станам грамадства і, безумоўна ж, чыталі вершы. Адказалі яны і на пытанні студэнтаў.

**Наталля АЛЯКСАНДРАВА**

## Змiцер АРЦЮХ



* * *

*Навучыцца б па-іншаму жыць —*
*Не змагацца з прызначаным лёсам.*
*А інакш — мы наклічам дажджы*
*З незагойнае раны нябёсаў;*
*Ці ў змаганні мы проста згарым*
*I не ўспомнім пра шлях да збавення;*
*Ці сваё стане раптам чужым,*
*Прадамо за капейку сумленне.*
*Ці забудзем, што грошы — вада*
*I зямля, як ваду, іх прымае.*
*А душа?*
*Там без Бога расце лебяда.*
*Лебядою душа зарастае.*

*Навучыцца б па-іншаму жыць.*

### I сон, і рэальнасць

*Сабіраю.*
*I рассыпаю.*
*Зноў збіраю.*
*Губляю зноў.*

*Корань спрэчак з душы вырываю…*
*Я стаміўся.*
*Згубіўся…*
*Знайшоў!*

*Зноў паклоны.*
*Зноў слёзы.*
*Малітва…*
*Зноў на споведзь стаю…*
*Маўчу.*

*Хутка, хутка закончыцца бітва.*
*Будзе мір…*
*Зноў я жыць*
*Захачу!*

### Натхненне

*Не лягу спаць,*
*бо на душы сцямнела —*
*Патрэбна чысціць вершамі яе.*
*Бяру асадку і блакнот нясмела,*
*I сэрца на паперы зноў пяе:*
*Пра чысты свет,*
*які мне часта сніцца,*
*Пра дом жывы на могілках старых,*
*Пра жураўля над вёскай і сініцу,*
*Якіх ніколі не ўтрымаць дваіх.*
*Туман над рэчкай, жабаў калыханку,*
*Каровы з пашы начаваць ідуць.*
*I маціёлаў пах з начы да ранку,*
*I камары… Зноў камары грызуць.*
*Не лягу спаць…*

## Зінаіда ДУДЗЮК



***

*Спявае вецер разняволены,*
*I пад яго тужлівы спеў*
*Душа былінкаю аголенай*
*Наструніцца ў глухой жальбе.*

*Па чым?*
*Па кім?*
*Хіба прызнаецца,*
*Каб праўдзе ў вочы паглядзець,*
*Дзе шчасце болем называецца,*
*Туга міжвольна рэй вядзе.*

*Дзе напускны спакой маркоціцца,*
*Адчай залёг на дне вачэй,*
*I сэрца стомлена калоціцца*
*Ў бяссонні стоеных начэй.*

*Ані ўспамінамі,*
*ні мроямі*
*Не суцяшае больш падман.*
*Мінуласць тройчы перакроена,*
*Перашываць яе дарма.*

*Парваны сувязі прыязнасці,*
*Ачах давер у злыбядзе.*
*Ад гэтае цвярозай яснасці*
*Куды самой сябе падзець?..*

***

*Стамілася, змірылася,*
*Блукаю, нібы здань.*
*Жыццё,*
*ці мне прыснілася*
*Твая былая даль?*
*Твая вясна заранняя*
*I квецень у садах?*
*Гляджу,*
*гляджу,*
*узіраюся —*
*Нічога не відаць.*

*Ах, як мяне знядоліла*
*Пустая мітусня!*
*Даволі ўжо, даволі*
*Сляпое праясняць.*
*Не страчана, не згублена*
*Жыццё маё дарма.*
*Нанерадзе няўробленых*
*Бясконцых спраў гурма…*

### Камень і жалеза

*Сустрэліся камень з жалезам,*
*Сышліся сцяна на сцяну.*
*Жалеза не ўмела залежаць,*
*Ніколі не гнула спіну.*

*А камень не звык варушыцца,*
*Тым болей —*
*каму саступаць.*
*Сышліся.*
*Што ж, біцца дык біцца!*
*Да зморы, да смерці стаяць.*

*Жалеза зубамі —*
*у камень,*
*Гатовае трушчыць,*
*крышыць.*
*Сыпнуліся іскры снапамі,*
*I скрыгат працяў да душы.*

*Ды толькі ад майстра залежыць,*
*Калі пэўны час працячэ,*
*Навострыцца гэта жалеза*
*Ці ступіцца, можа, ушчэнт.*

***

*Дождж нікуды не спяшаўся,*
*Зазіраў ва ўсе куткі,*
*Разліваўся, разлягаўся*
*Ад балота да ракі.*
*Ды змываў сляды і сцежкі,*
*Дзе прайшлі з табою мы.*
*Ані слова, ані ўсмешкі*
*Не пакінуў на ўспамін.*
*Мы яго перачакаем.*
*Колькі можна ліць яму?*
*Новых словаў пашукаем.*
*Па ранейшых не сумуй…*



*Фота Кастуся Дробава*

## Ізяслаў КАТЛЯРОЎ



***

*Пульсуе ў высях зорнае святло, —*
*я пульсам адчуваю трапятанне.*
*I натуральней быць мо не магло,*
*чым памятнае ў небе шчабятанне.*
*Ах, ладна, паляцелі — свой ім курс,*
*вось-вось над полем рэха адгукнецца...*
*Іду туды, дзе мой сардэчны пульс*
*пад зоркамі ці проста ў зорках б'ецца.*
*Ўзнімаюся за поглядам увысь.*
*За поглядам? А ці па ім — усё-ткі?*
*Вось пада мною лесу ўжо абрыс,*
*вось і ракі адолеў рух дрыготкі.*
*Над ёю у паветры перайшоў,*
*цяпер над лугам я іду, над полем.*
*Ў пунктірным бляску ісціну знайшоў*
*аб тым, што кожны жыць сабою волен.*
*Ў жыццёвым зле? Ў жыццёвай дабрыні?*
*Сваім рашаем самі ўласным лёсам,*
*ці нам бадзяцца духам па зямлі,*
*ці ўсё-такі лунаць паміж нябёсаў.*

***

*Ой два гаю, ой два гаю, ой дзве спеўнасці*
*на нябесных размінуліся шляхах*
*і заглухлі ў непасільнай беспрасветнасці,*
*і замоўклі у паветраных вірах.*
*А зямлі гучанне ўласнае пакінулі, —*
*то не гаю і не поля сказ чуцён,*
*на дзве спеўнасці сваё дыханне вымкнулі*
*і ўпікаюць, плачучы, журацца спакон.*
*На дзве спеўнасці рака*
*над лугам плешчацца,*
*на дзве спеўнасці бяроза шамаціць...*
*Ой ды зноў жа на дзве спеўнасці*
*трапечацца*
*і струменіць на бярозе кожны ліст.*
*Ой два гаю, ой два гаю, ой два чыстыя,*
*вы шуміце ці крыўдуеце, вячыстыя?*
*На дзве спеўнасці*
*тут змоўкне ў мілых днях*
*безгалосая, глухая цішыня.*
*Толькі вось дыханнем зноў з нябёс*
*даносіцца,*
*у чыесьці душы ці то ў памяць просіцца,*
*ды гучыць на вечны ўжо спакой:*
*«Ой два гаю, ой...»*

***

*I камень на радзіме — як падушка,*
*трава — што пух,*
*ручай журчыць не скрушна,*
*жаўцеюць дзьмухаўцы паміж дарог...*
*Ды нават радасць гэта бы спалох.*
*Ляжу, як бы і ад сябе таюся,*
*вось зараз ценем хмаркі засланюся,*
*маленства згадваючы спакваля...*
*Ах, Чавусы, радзімая зямля!*
*Сабой нідзе не быў так, нат у марах:*
*каб спінай — на зямлі,*
*у небе — тварам, —*
*ляжу, плыву, а можа быць, лячу*
*і толькі ўсім жыццём жыцця хачу.*
*Вось я іду (ці гэта мне здаецца?)*
*па вуліцы, што Факельнай завецца,*
*дзе толькі прывідна знаёмы мне*
*бацькоўскі дом, што знік у даўніне.*
*Зноў хочацца назваць рачулку мілай,*
*зноў чую плач над мамінай магілай,*
*зноў сэрца жалем горасна шчыміць —*
*і хочацца не помніць, а забыць.*
*I камень на радзіме — як падушка,*
*трава — што пух,*
*ручай журчыць не скрушна,*
*жаўцеюць дзьмухаўцы паміж дарог...*
*Ды нават радасць гэта бы спалох.*

***

*...а пасля пацямнела рака*
*і зусім непрагляднаю стала,*
*нібы ўвогуле ўжо не цякла, —*
*стала.*
*Не ў раку — на раку я глядзеў,*
*зрок не ў ёй, а на ёй заставаўся*
*і як быццам таксама цвярдзеў —*
*сцяўся.*
*У вадзе той сама чарната, —*
*я нічога не бачыў за зрокам,*
*дзе ныраў аж да самага дна*
*зрокам.*
*Гэта дадзена высям адным:*
*вось захочуць — і цьмой адбіраюць.*
*А навошта — дык толькі яны*
*знаюць.*
*То прасвецяць і марай скразной,*
*як дарогаю Млечнай,*
*то аднімуць жыццё чарнатой*
*вечнай.*

***

*Зноў такая у думках бязмежнасць,*
*што выснову, бадай, не забыць:*
*калі словам становіцца вечнасць,*
*значыць, вечным і слову ўсё ж быць.*
*Прарастуць праз сінечу аблокі,*
*каб душу ці то позірк хаваць, —*
*паспрабуй гэта словамі ўсё-ткі*
*так, каб вечнымі сталі, сказаць.*
*Падзялілі зямлю мы і неба,*
*нават воды змаглі падзяліць,*
*ды глядзяцца убога і нема*
*ўсе шлагбаумы нашых граніц.*
*Ні вятры іх, ні буры не знаюць,*
*плыні хмарныя не прызнаюць,*
*беспамежныя птушкі лятаюць,*
*бесцэнзурныя песні пяюць.*
*I душа гэтаксама*
*бы птушка, —*
*бескрылатасць яе здолець змог*
*тым, што больш не хаваецца пудка*
*там, дзе роўныя Слова і Бог.*

**Пераклад з рускай**
**Соф'і ШАХ**



Сяргей БЕЛАЯР

# Міжзорныя ўтыль-капальнікі

## *Навукова-фантастычнае апавяданне*

Доўгія пошукі, нарэшце, прынеслі радасць: сканеры касмічнага разведчыка «Дор-Шарг» зафіксавалі ў петаметры ад карабля крыніцу сыравіны каласальных памераў.

Як толькі апаратура падала гукавы сігнал, капітан Аргас Храмун забарабаніў пальцамі па клавішах, запускаючы праграму дыстанцыйнага аналізу знаходкі, а тэхнік Цірак Ра-Ваш узяўся актывізаваць зонды і рыхтаваць калідор для гіперпрасторавага скачка. Працаваў экіпаж моўчкі і засяроджана, не спяшаючыся раней часу ацэньваць поспех місіі. З немалой доляй верагоднасці магло быць, што крыніца ўжо камусьці належала.

Мадыфікаваны варыянт армейскага сканера генерыраваў спецыяльныя хвалі — яны не рассейваліся ў прасторы, ігнаруючы доплераўскае зрушэнне частаты. Прыёмнік дазваляў лавіць зваротны сігнал, нават калі яго скажалі электрамагнітныя перашкоды тэхнагеннага паходжання. Карэляцыю інфармацыі ажыццяўляў штучны інтэлект.

Праз некалькі хвілін пачалі паступаць першыя дадзеныя. Інфармацыя мянялася з кожнай секундай, і адпаведна мяняўся погляд капітана.

— Не так даўно планета была прыдатная для жыцця!

— Каб гэта зразумець, дыстанцыйныя сканеры не патрэбны! Смецце на арбіце паказвае на прысутнасць разумных форм жыцця лепш за любы знак! А з гэтым самым жыццём што? Не хацелася б, каб планета аказалася населенай!

— Лепш за ўсё — пустая планета. Менш праблем!

— Ды і ганарар нашмат большы!

Наяўнасць жыццёвых форм на планетах са значнымі крыніцамі сыравіны праблемай не была — у залежнасці ад узроўню інтэлекту жывых істот у гульню ўступалі альбо ваенныя, альбо дыпламаты.

Праз чатыры хвіліны штучны інтэлект абвясціў пра адсутнасць жывых істот на паверхні. Адмоўны вынік быў атрыманы і пасля пошуку розуму пад паверхняй.

Настрой тэхніка адразу палепшыўся. Ён з падвоеным імпэтам узяўся за працу.

Пакуль Ра-Ваш рыхтаваў зонды, капітан прагледзеў базу дадзеных штучнага інтэлекту і залез у Старнэт. Пра планету, якая знаходзілася па той бок мяжы Айкумены, інфармацыі было вельмі мала.

Храмуна цікавіла не гісторыя, а статус планеты ў галактычным рэестры. На шчасце, геоід не належаў ні да аднаго з населеных сусветаў. Не было ані файнд-маркера, ані сігнальных буёў, ані іншых прыкмет таго, што экіпаж «Дор-Шарга» апярэдзілі.

Цірак расплыўся ў задаволенай усмешцы. Такія велічэзныя крыніцы сыравіны сустракаліся нячаста. У апошні раз багатую рэсурсамі планету знайшлі дваццаць тры гады таму.

— Зонды гатовыя!

— Калідор?

— Тры хвіліны да стапрацэнтнай гатоўнасці! Задаю каардынаты пераходу!

Корпус касмічнага разведчыка завібраваў: штучны інтэлект разганяў рэактар. Модуль гіперпрасторавага джампера пачаў пульсаваць.

— Гатоўнасць да скачка — адна хвіліна!

Адсекі касмічнага разведчыка напоўніліся нізкім гулам гіперпрывада.

— Старт!

У кірунку гіпермяжы са светлавой хуткасцю панесліся тры даследчыя апараты ў звышмоцных карпусах.

Пра тое, што зонды перасеклі нябачную рысу, сведчылі тры зеленаватыя светлячкі. Ра-Ваш вывеў на экран аб'ёмную камп'ютарную мадэль. Падфарбаваныя аранжавым капсулы несліся па прамой з велізарнай нават на скарэкціраваным штучным інтэлектам малюнку хуткасцю. Праз некалькі хвілін зонды вынырнулі на адлегласці ў мільён кіламетраў ад планеты. З'явіўся малюнак.

Цірак упэўнена вёў зонды да арбіты. Для таго, каб праслізнуць скрозь поле тэхнагенных аб'ектаў агульнай масай у некалькі дзясяткаў мільёнаў тон, Ра-Вашу давялося пусціць у ход усё сваё майстэрства. Ён не хацеў рызыкаваць.

Суцэльная сцяна смецця расступілася, і экіпаж убачыў планету. Геоід быў шэра-чорным з абрысамі мацерыкоў, што адгадваліся слаба. Падпарадкоўваючыся джойсціку ў руцэ Ра-Ваша, зонды пачалі плаўны спуск. Храмун і Ра-Ваш не адрываліся ад манітораў. З-за велізарнай адлегласці сігнал прыходзіў са спазненнем.

Да радасці экіпажа, уся планета была літаральна завалена смеццем. Прычым, адходы ўключалі дэфіцытныя хімічныя элементы і рэдкія матэрыялы.

— Аргас, мы багатыя! — радасна закрычаў тэхнік. Капітан адказаў слабым кіўком — ён не любіў паспеху.

— Нам трэба яшчэ заявіць свае правы на сыравіну! Пачынаем працаваць неадкладна!

— Ёсць!

У адпаведнасці з законам знаходка належала таму, хто першым дастаўляў сыравіну на бліжэйшую рэсурсную базу. Кароткахвалевыя радыёбуі пазначалі толькі межы ўчастка і служылі знакам пачатку здабычы, не гарантуючы таго, што іншыя пашукавікі не пакваліцца на каштоўную жылу.

Сусветы Айкумены, якія імкліва развіваліся, патрабавалі ўсё больш рэсурсаў, а разведаныя крыніцы карысных выкапняў хутка высільваліся і не маглі цалкам пакрыць патрэбнасць у сыравіне. Сонца давала энергію, але з яго святла немагчыма вытачыць дэталь, пашыць адзенне і сінтэзаваць ежу. У перапрацоўку ішло ўсё, выключаючы буйныя касмічныя целы.

Ра-Ваш змяніў працоўны рэжым даследчых апаратаў і пачаў нетаропка ўводзіць каардынаты пункта пераходу. Мінімальная памылка магла каштаваць жыцця. Капітан назіраў за планетай, спрабуючы намаляваць карціну таго, якой яна была раней.

Праз некалькі хвілін Цірак абвясціў гатоўнасць.

— Падрыхтавацца да паскарэння! — абодва крэслы патанулі ў сілавых коканах, у сярэдзіну якіх лінуў амартызацыйны газ. Далей у справу ўступаў штучны інтэлект. На маніторы змяняліся лічбы зваротнага адліку. У нейкі момант «Дор-Шарг» пачаў набіраць хуткасць.

Касмічны разведчык дасягнуў гіпермяжы праз некалькі секунд. Рушыла ўслед яркая ўспышка. Нават аслабленая святлафільтрамі, яна балюча ўдарыла па вачах, а затым «Дор-Шарг» ірвануў наперад, нібыта атрымаў дадатковае паскарэнне. Перагрузка ўзрасла з аднаго да дванаццаці джоўляў. Храмун і Ра-Ваш адчулі рэзкае павелічэнне вагі. Неадольная сіла ўціснула галаву ў плечы, з'явіўся асабліва невыносны цяжар у грудзях. Для таго, каб паварушыць хоць бы пальцам, даводзілася прыкладаць немалыя высілкі. Ступні і галёнкі здаваліся павялічанымі ў аб'ёме, мышцы звяло курчамі, зрок як бы расфакусіраваўся, не заўважаючы ніякіх прыкмет гіперпрасторавага калідора.

Члены экіпажа толькі нейкім цудам не страчвалі прытомнасці. На шчасце, пераход ніколі не цягнуўся доўга. За сто тысяч кіламетраў ад кропкі выхаду модуль адключыўся і пачался тармажэнне. Карабель увайшоў у норму за дваццаць тысяч кіламетраў ад арбіты.

— Цірак, як ты? — спытаў капітан, як толькі ачнуўся.

— Добра! — адазваўся тэхнік. Яго голас слаба дрыжаў.

— За працу!

Кампрэсары ўцягнулі газ, сілавыя коканы зніклі.

Капітан адстрэліў радыёбуі і вывесіў на адлегласці паўмільёна кіламетраў над паўночным полюсам планеты файнд-маркер з ідэнтыфікацыйным нумарам «Дор-Шарга». Тэхнік заняўся танкамі. Кожны касмічны разведчык, незалежна ад жадання вольных пашукавікоў — арцеляў або наёмных карпарацый — забяспечваўся кантэйнерамі для сыравіны, граберамі, сартавальнымі механізмамі і прэсам.

На тое, каб падрыхтавацца да збору сыравіны, спатрэбілася каля дзесяці хвілін. У адрозненне ад Ра-Ваша, рукі ў Храмуна не дрыжалі, хоць хваляванне Аргаса было немэншым.

— Пачынаем? — спытаў, згараючы ад нецярпення, Цірак.

Перш чым наблізжацца да базы смецця, капітан вырашыў агледзецца — сюрпрызы экіпажу патрэбны не былі. На сто мільёнаў кіламетраў вакол было пуста. Праверыў Храмун і дадзеныя зондаў.

— Можна!

Тэхнік пацёр рукі ў прадчуванні вялікага куша і ўзяўся за ручкі кіравання маніпулятарамі, абсталяванымі велічэзнымі захопамі. Грабер тузануўся, шчыпцы сагнуліся і выпрасталіся.

Пераканаўшыся ў тым, што маніпулятары гатовы да працы, Ра-Ваш варухнуў дзяржальнамі. Фантастычныя цуда-памочнікі ўрэзаліся ў сцяну смецця. Цірак паварушыў дзяржальнамі, і маніпулятар панёс здабычу да шырокага раструба, праз які сыравіна паступала ў комплекс сартавальных механізмаў, адкуль ішла пад прэс. Спрасаваныя брыкеты вагой па сто тон па канвееры адпраўляліся ў танкі, дзе магутныя краны размяркоўвалі іх па грузавых ёмістасцях.

Капітан вырашыў азнаёміцца з вынікамі скaніравання. Атмасфера амаль на семдзесят пяць працэнтаў складалася з аксіду вугляроду. Каля шасці працэнтаў прыходзілася на кісларод, астатнюю частку складалі аксіды азоту, дыяксід серы, альдэгіды, аміяк, радыеактыўныя ізатопы і цяжкія металы. На гэтым таксама можна было нядрэнна зарабіць.

Не менш забруджаныя на апусцелай планеце глеба і вада. Грунт быў літаральна перасычаны ўстойлівымі хлорарганічнымі злучэннямі, нітратамі, сульфатамі, хларыдамі, а таксама таксічнымі адходамі прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, ртуццю, свінцом, мыш'яком, меддзю, кадміем. Сусветны акіян нагадваў кактэйль з нафты і нафтапрадуктаў, нітратаў, фасфатаў, інсектыцыдаў, гербіцыдаў, прамысловага ды бытавога смецця і цяжкіх металаў.

Нечакана для самога сябе капітан адчуў шкадаванне да тых, хто не здолеў своечасова спыніцца і ператварыў свой дом у звалку. Жаль працягваўся нядоўга — Аргас адмахнуўся ад гэтай думкі, як адназойлівай кузуркі, нагадаўшы сабе пра тое, што не варта спачуваць дурням. Лепш падумаць, як не падпусціць недасведчаных да атручанай планеты.

Праца ішла.

На душэўныя згрызоты Цірак не пакутаваў — занадта доўга ён марыў пра тое, як разбагацее. Напарнікам і сябрам Ра-Ваш быў нядрэнным, нягледзячы на такое ўвогуле зразумелае жаданне, бо і праз дзесяцігоддзе не забываліся цяжкае дзяцінства і галоднае юнацтва. Аргас і сам не супраць прамяняць манатонныя пошукавыя будні на забяспечанае марнаванне часу, але марамі пра незлічоныя багацці не трызніў.

Калі Храмун глядзеў на імкліва растучыя лічбы, якія паказвалі тонаж смецця, з яго грудзей рвалася радасць. Капітану даводзілася супакойваць сябе: занадта ўжо вялікая была рызыка трапіць у поле зроку канкурэнтаў або піратаў.

«За такую залатую жылу ўчэпяцца ў горла не толькі чужыя, але і самыя верныя сябры!», — раптам падумалася капітану. Ён цішком кінуў на таварыша ацэньваючы погляд. Калі не заўважаць узбуджанага мармытання, Цірак быў такім жа, як і заўсёды. Храмун зноў утаропіўся ў экран. Сам капітан не мог дапусціць і думкі пра тое, каб здрадзіць таварышу. Гонар афіцэра, няхай сабе і адстаўнога, не дазваляў нічога. Ды і куды падзець сумленне?

Колькасць брыкетаў, аднак, павялічвалася. Штучны інтэлект правёў разлікі і выдаў рэзюмэ: танкі касмічнага разведчыка будуць запоўненыя задоўга да таго, як смецця стане менш на дзесяць працэнтаў.

Храмун змяніў Ра-Ваша праз дзве гадзіны, не прыняўшы пад увагу пярэчанні Цірака.

— Смецце нікуды ад цябе не дзенецца!

Спрачацца з капітанам тэхнік не адважыўся — моўчкі перадаў кіраванне таварышу. Толькі павярнуў галаву, каб Аргас не заўважыў нядобрага бляску ў яго вачах. Погляд Ра-Ваша спыніўся на вогнетушыцелі — цяжкім балоне, здольным без цяжкасці праламаць чэрап.

Тэхнік нервова аблізнуў вусны, спалохаўшыся ўласных думак. Спакуса забіць капітана і завалодаць усім багаццем аднаасобна была вельмі моцнай. І супрацьўляцца ёй аказалася цяжка. Цірак асцярожна расшпіліў замок рамянёў бяспекі, пасля чаго яны лёгка зваліліся на крэсла. Глыбока ўдыхнуўшы, пацягнуўся да вогнетушыцеля, імкнучыся пры гэтым не патрывожыць капітана. Сэрца білася аб рэбры, здаецца, на ўсю міжзорную прастору.

У гэты самы момант на маніторы з'явіліся дадзеныя пра дакладную колькасць сыравіны і разлікі меркаванага прыбытку.

Сума атрымлівалася астранамічная.

Ра-Ваш выдыхнуў і прымусіў сябе забыць пра жаданне пазбавіцца ад сябра. А праз імгненне Цірак засаромеўся сваіх думак.

На тое, каб загрузіць усе танкі, ледзь хапіла чацвярых сутак, на працягу якіх Ра-Ваш і Храмун змянялі адзін аднаго на час ежы і сну праз кожныя шэсць гадзін. Змяншэнне колькасці смецця на планеце было практычна незаўважным.

Да рэсурснай базы дабраліся за тыдзень. Паліва не эканомілі: касмічны разведчык здзяйсняў скачкі ў гіперпрасторы. І аднаго рэйса хапіла, каб зрабіць Аргаса і Цірака заможнымі. Але капітан і тэхнік на дасягнутым не спыніліся — яны нанялі самы вялікі танкер і за тры рэйсы перавезлі ўсё смецце з аддаленай планеты. І толькі пасля таго, як з танкера быў выгружаны апошні брыкет, пашукавікі адчулі рэальны кошт свайго новага статусу.

— Ну, і як табе мая сціплая хаціна? — спытаў Цірак, ямчэй уладкоўваючыся на шэзлонгу, па абодва бакі ад якога стаялі слугі з веерамі.

— Няблага! — адказаў Аргас, хоць называць сціплым палац таварыша было нельга — ад унутранага ўбранства літаральна патыхала раскошай.

Ра-Ваш расплыўся ў задаволенай усмешцы і сказаў:

— Калі хочаш, можам выйсці ў адкрыты космас на маёй асабістай яхце, самай вялікай у Айкумене!

— Чаму б і не? Але толькі пасля таго, як ты пакажаш мне сваю калекцыю! Памятаецца, ты казаў, што ў цябе ёсць арыгіналы вялікіх майстроў мінулага?

— Так! Давялося раскашэліцца, але яны таго каштуюць! Прызнаюся, пасля знаёмства з тваім паркам рарытэтных машын мяне пачало адольваць жаданне ўразіць цябе чым-небудзь не менш дарагім!.. Яшчэ кактэйлю?

Гатовыя выканаць любое жаданне, слугі напружыліся, чакаючы загаду.

— Не, дзякуй! — адказаў Храмун і перавёў погляд на непраўдападобна прыгожых жанчын, што цярпліва чакалі, калі ўчарашнія міжзорныя ўтыль-здабытчыкі зробяць ласку паглядзець на іх. Красуні ажывіліся і пачалі дэманстраваць Аргасу свае чары.

Экс-капітан памахаў дамам рукой.

— Захочаш чаго-небудзь — толькі скажы!

— Абавязкова!

Некалькі імгненняў таварышы маўчалі, атрымліваючы асалоду ад выдатнага краявіду, што адкрываўся з балкона, — ландшафтныя дызайнеры папрацавалі добра. Затым Ра-Ваш з пачуццём вымавіў:

— Жыццё выдатнае!.. Усе забываю спытаць: як называлася тая пустэльная планета?

— Калі не памыляюся, гэта была Зямля!

# Ці толькі газетная публіцыстыка?

На працягу некалькіх гадоў Выдавецкі дом «Звязда» працуе над рэалізацыяй адмысловага кніжнага праекта — «Беларусь учора і сёння».

Асновай публікацый становяцца артыкулы, нарысы, эсэ, часам карэспандэнцыі, надрукаваныя ў газеце «СБ. Беларусь сегодня». Публікацыі, аўтарамі якіх з'яўляюцца журналісты і пазаштатныя аўтары, носяць асветніцкі, культуралагічны характар, вызначаюцца папулярным выкладаннем гістарычных, культурных з'яў у гісторыі нашай Айчыны, цікавым раскрыццём біяграфій сыноў і дачок Беларусі. Пачынаючы з 2009 года пабачылі свет чатыры кнігі згаданай серыі: «Время и бремя архивов и имён» Людмілы Рублеўскай і Віталя Скалабана, «Белорусские сокровища за рубежом» і «Соотечественники» Адама Мальдзіса, «Рифма ценою в жизнь» Людмілы Рублеўскай.













Здавалася б, у дачыненні да большасці артыкулаў павінна спрацаваць даўно вядомае правіла: газета жыве адзін дзень — адпаведна і артыкулы цікавыя толькі чытачу газетнай публікацыі. Наўрад ці, мяркую, лагічна аб'ядноўваць іх у зборнікі, выдаваць пасля цэлымі кнігамі… Але жыццё паказвае, што ўсё не зусім так. У прыватнасці, і кнігі разыходзяцца дастаткова хутка. І ў друку асобныя выданні заўважаны грунтоўнымі рэцэнзіямі. І на шматлікія прэзентацыі кніг прыходзіць нямала зацікаўленых асоб. А бібліятэкі вельмі ахвотна працуюць з серыяй, хаця ці не кожная з гэтых устаноў мае падшыўку газеты «СБ. Беларусь сегодня» за розныя гады. Атрымліваецца, што, плануючы той ці іншы праект, тую ці іншую газетную рубрыку, у калектыве «СБ. Беларусь сегодня» празорліва зазірнулі ў будучыню, разгледзелі патэнцыяльную зацікаўленасць шырокага кола чытачоў. У выніку і выдавецтву аказалі добрую паслугу.

Чаму рэдакцыйны савет серыі, які ўзначальвае заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня» Павел Якубовіч, выбраў менавіта згаданых аўтараў, згаданыя тэмы? Па-першае, у публікацый быў дастаткова высокі рэйтынг. На іх адгукалася чытацкая пошта, з'яўляліся рэцэнзіі ў перыядычным друку. Па-другое, дастаткова высокі аўтарытэт у тых, хто з'яўляецца аўтарамі. Людміла Рублеўская, працуючы ў гарачым газетным цэху, — яшчэ і вядомая пісьменніца, гістарычны раманіст. Яе цыкл пра авантуры Пранціша Вырвіча — выключна прыцягальная гістарычная, гісторыка-прыгодніцкая проза. А ў перыядычным друку Людміла Іванаўна выяўляе сябе адметным папулярызатарам айчыннай гісторыі. Адам Мальдзіс дзесяцігоддзямі ўзнаўляе лёсы беларусаў, якія паслужылі іншым народам, іншым краінам. Шмат зрабіў для віртуальнага вяртання беларускіх скарбаў у абсягі Айчыны Віталь Уладзіміравіч Скалабан, які, на вялікі жаль, ужо пайшоў з жыцця, — архівіст ад Бога, вядомы шукальнік розных фактаў гісторыі. І быў надзвычай цікавым апавядальнікам, працаваў у суаўтарстве з шэрагам журналістаў. З Людмілай Рублеўскай і напісаў цыкл артыкулаў па матэрыялах архіўных знаходак.

Што прываблівае ў кнігах серыі? Гэта — займальны характар апавядальнасці, здольнасць аўтараў пабудаваць кампазіцыю артыкулаў, нарысаў, эсэ з разлікам на лаканічны пераказ багатага, адметнага, у многім нечаканага фактаграфічнага матэрыялу. Па ўсім відаць, што з тэкстамі працавалі грунтоўна. Жаданне хутчэй нешта напісаць у газету не стала падставай для паспешлівасці. Тэмы надзвычай грунтоўна распрацаваны, выбудаваны згодна з усімі законамі жанраў. Адчуваецца, што яны рыхтаваліся сістэмна, зыходзячы з агульнай палітыкі газетнага выдання.

Аглядаючы газетныя старонкі «СБ. Беларусь сегодня», мяркую, што ў серыі «Беларусь учора і сёння» павінен, абавязаны быць працяг. Асобнымі кнігамі маглі б стаць некаторыя цыклы публікацый Уладзіміра Сцяпана, Віктара Корбута, магчыма, іншых журналістаў і пазаштатных аўтараў выдання. Газета дапамагае стварыць сапраўдную гісторыка-асветніцкую энцыклапедыю, спрыяе фарміраванню бібліятэкі дапаможнага матэрыялу ў вывучэнні гісторыі нашай Айчыны. «СБ. Беларусь сегодня» надрукавала і шмат матэрыялаў, прысвечаных 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, падзеям Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі. Чаму б гэтыя публікацыі таксама не аб'яднаць у асобныя кнігі?.. Такія падыходы спрыяюць і развіццю мастацкай публіцыстыкі, удасканальваюць творчую працу журналістаў.

**Кастусь ХАДЫКА**

# Працяг палескіх хронік. Не рэмэйк

Зусім нядаўна пабачыла свет новая кніга Уладзіміра Гаўрыловіча «Анёлак мой, Анёлак…». Большую частку выдання складае раман «Забранае шчасце», прысвечаны раскулачванню беларускіх вёсак. З першых старонак твор нагадвае «Палескую хроніку» Івана Мележа: месца дзеяння — палеская вёска, у маўленні герояў гучаць дыялектызмы і адмысловыя словаформы, галоўная сюжэтная лінія — стасункі між закаханымі Рыгорам і Верай.

Шчасцю хутарской моладзі перашкаджаюць як бацькі (яны па старой завядзёнцы дбаюць больш пра дабрабыт, чым пра пачуцці), так і савецкая ўлада, якая ў кожным заможным селяніне бачыць ворага. Каханых — не толькі Рыгора і Веру, але і Ганну, Ігната, Зіну, Іллю — разлучаюць і высылкай, і настойлівай падазронасцю да ўсіх, хто меў сувязі з кулакамі. Калі І. Мележ спрабаваў разабрацца, чаму калектывізацыя ператварылася ў разбурэнне вёскі, у доўгі ланцуг драматычных падзей, то ў рамане У. Гаўрыловіча савецкая ўлада — сіла абсалютна чужасная, індыферэнтная да сялян, якая парушае звыклы лад, змяняе адносіны паміж людзьмі — змушае здраджваць, варагаваць, забіваць. Упаўнаважаныя асобы хлусяць і крывадушнічаюць, «слова бальшавіка» не мае ніякай вагі. Сяляне нічога не абмяркоўваюць супольна і маюць адзіны выбар: арцель альбо высылка. У параўнанні з «Палескай хронікай» на старонках «Забранага шчасця» выяўлены сапраўдны таталітарны рэжым, дзе няма выпадковасцей, а ёсць мэтанакіраванае зло, і асобны чалавек абсалютна мізэрны. Значэнне палітычных падзей і важных пастаноў таксама аднолькавае — таму твор У. Гаўрыловіча не прывязаны да дат і вольны ад працяглых сялянскіх сходаў.

На першым плане — перыпетыі жыцця герояў: вясковы побыт і духоўны свет персанажаў амаль не выяўлены, затое на двухстах старонках здараецца больш лёсавызначальных падзей, чым у трох тамах рамана Мележа. Пры гэтым значную ўвагу пісьменнік звяртае на жанчыну, на падзеі жаночага свету. Беларускія пісьменнікі вельмі доўга ўяўлялі мужчын сваімі галоўнымі і ледзь не адзінымі чытачамі. У тым ліку і з гэтай падставы беларускую класіку мала чытаюць сёння: патэнцыяльны рэцыпіент пакрысе змяніў гендарную прыналежнасць. Аўтар «Анёлка…» піша з выразным разлікам на жанчын. Таму галоўныя падзеі рамана — не толькі вяселлі, высылкі, арышты, смерці, але і цяжарнасць, роды, здарэнні з дзецьмі. Увага да жанчын выклікае ўдзячнасць, хаця з боку герояў яна часам падаецца празмернай. Асобныя ж моманты крыху здзіўляюць: так, нялюбая жонка Рыгора на сёмым месяцы «скідвае» дачку, на наступны дзень засільваецца, а дзіцё разам з сям'ёй выпраўляюць у высылку. Герой настойліва спадзяецца, што дачушка будзе жыць, хаця верагоднасць гэтага амаль нулявая. Дый сам ён, паранены, зваліўся з сасны і толькі дзівам застаўся жывы…

Часцей, чым у «Палескай хроніцы», здараюцца самагубствы — здзяйсняюць іх пераважна жанчыны ў стане афекту. Пісьменнік выяўляе і трагізм пераўтварэнняў, якія адбываюцца на вёсцы, і несправядлівасць жорсткіх прысудаў у дачыненні да жанчын: яны часта трапляюць у высылку разам са сваімі сем'ямі толькі за тое, што былі жонкамі, дочкамі, сваячкамі кулакоў.




На апошніх старонках рамана зноў з'яўляецца ўдзячнасць да аўтара і радасць за яго творчыя здольнасці. У эпіграфе пісьменнік сведчыць, якой вострай была праблема раскулачвання, і выяўляе яе праз сюжэт, праз вобразы галоўных герояў. У. Гаўрыловіч абыходзіцца без аўтарскіх адступленняў, без разважанняў пра ўжо вядомае, і непатрэбным робіцца караценькае «пасляслоўе», бо чытач і без агульных слоў зразумее галоўную ідэю твора, прыйдзе менавіта да тых высноў, якія з'яўляюцца значнымі для пісьменніка.

Многія эпізоды ў рамане кранаюць, калі аўтар не перабольшвае з сентыментальнасцю, не выкарыстоўвае збыткоўных дэталей. Гарыць хата, Верчына сястра выкідае ў акно маленькага сына, а пісьменнік «праз полымя» педантычна пазначае, што хлопчыка ратуе «камсамольскі актывіст, рахункавод Салавейчык». У рамане мала вясковага побыту, але прысутнічае прырода (кароткія апісанні заўсёды маюць дачыненне да свету людзей), ёсць тут і сімвалічныя сны, і паданне пра Князь-возера, якое падкрэслівае адвечную залежнасць чалавека, няздольнасць жыць паводле ўласных жаданняў і пачуццяў.

Калі б У. Гаўрыловіч адчуваў сябе постмадэрністам, то неяк абыграў бы выбар тэмы і месца дзеяння: зрабіў бы Веру сваячкай Мележавай Ганны альбо па-свойму апісаў пэўны эпізод са знакамітай трылогіі. Пераемнасць між творамі вельмі выразная, хаця мастацкія стратэгіі пісьменнікаў у многіх пунктах адрозніваюцца. Беларуская літаратура пакуль не багатая рэмэйкамі на класічную прозу, і У. Гаўрыловіч таксама ўстрымаўся ад смелых крокаў. Магчыма, справа ў сур'ёзнасці тэмы і вялікім аўтарытэце І. Мележа, але постмадэрнізм — гэта не абавязкова насмешка, іронію ж магчыма абмежаваць нязгодай са стылем і светабачаннем пісьменніка-класіка. Пакуль жа У. Гаўрыловіч абмежаваўся сцвярджэннем актуальнасці беларускай літаратурнай традыцыі — і зрабіў гэта на добрым узроўні.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Фантастыка як суровая рэальнасць…*

Няма ў нас рэзонаў сціплічаць: на магутнай хвалі неаміфалагізацыі, якая накрыла рэальнасць на пераходзе паміж стагоддзямі мінулым і сённяшнім, найноўшая беларуская літаратура магла б быць Вершнікам. Яна магла б калі не «ачоліць», дык хаця б узняцца (на людзей паглядзець і сябе паказаць) на той хвалі.

Магла б. Калі б, халера, не тая клятая сціпласць.

А можа, справа зусім не ў сціпласці, але ў звышадказнасці?.. Хай сабе «лыцары»-чужаніцы (раманісты, навелісты і розныя там іншыя белетрысты) заваёўваюць для сваіх літаратур новых чытачоў: заманьваюць іх (цэлымі натоўпамі!) з дапамогай фэнтэзі ды неаготыкі, дэтэктываў (псеўдагістарычных) ды трылераў (нібыта мастацтвазнаўчых). Няхай шлякочуць даверлівай публіцы нервы хорарам крывавым і забаўляюць, як дзяцей, жахамі містычнымі… Беларускія літаратары думаюць (у асноўным) пра важнае; скажам без эківокаў — пра галоўнае: пра Беларусь. І тут ужо альбо грунтоўна да справы падыходзіць (каб і пісьменнікам не сорамна было звацца), альбо разменьвацца на ўсялякую драбязу, усе гэтыя трэнды-брэнды, фэнтэзі-фантастыку, містыку-готыку…

Гэтую «жанравую сцэнку» чалавек сур'ёзны мог бы пакінуць без увагі — як «вучэбны тэкст», практыкаванне ў рыторыцы. Мог бы. Калі б здолеў абмінуць увагай відавочны канфлікт паміж тым, што па ўсіх рэзонах павінна быць — і тым, што насуперак усім рэзонам ёсць у НайБелЛіце.

На думку П. Васючэнкі, ключом да рэалізацыі літаратурных прагнозаў мусіць стаць разуменне, што пісьменнікі не прадказваюць будучыню — яны яе праграмуюць: «Літаратура магла б перастварыць цывілізацыю, алітаратурыць свет, калі б забылася на ранейшы свой лёс — стварэнне антыўтопіяў. <…> Галоўныя антыўтопіі ў беларускай літаратуры ўжо як бы створаныя. <…> Выснова: XXI стагоддзе — час стварэння ўтопій». Аднак НайБелЛіт упарта супраціўляецца не толькі ўласнаму выраку пабыць Вершнікам. Ён усімі часткамі свайго «літарганізма» супраціўляецца і прадказанням літаратуразнаўцаў, і нават самой неабходнасці ўскочыць у сусветную плынь. Тут што ні аўтар, то «свой шлях» і адначасова — гатовы заснавальнік тэндэнцыі ці, прынамсі, кандыдат у яе самыя што ні на ёсць яскравыя прадстаўнікі.

Апошняя характарыстыка цалкам магла б прыдацца для кароткай «атэстацыі» празаікаў, што адгукнуліся на «фантастычную ідэю "Маладосці"»: чацвёртны нумар выдання за 2014 год утрымлівае спецыяльны выпуск «Беларусь у фантастычных апавяданнях», зроблены як «успамін» пра «часопіс у часопісе» «Фантаст».




***

…Дванаццаць твораў дзесяці аўтараў без асаблівых высілкаў (як бы самахоць) размяркоўваюцца па трох (умоўных!) жанрава-стылявых групах. Калі імкнуцца занатаваць у найменнях груп адметнасць прадстаўленых твораў, можна прапанаваць наступныя «шыльды»:

- міфа(фальклорна)цэнтраваная навелістыка;
- навукова-фантастычныя аповеды з элементамі фэнтэзі;
- (мета)рэалістычныя аповеды з элементамі фантастыкі/эзатэрыкі.

Бясспрэчны прыярытэт малых эпічных форм у дадзеным выпадку абумоўліваецца, відаць, фарматам калектыўнага часопіснага праекта.

Твораў, якія з пэўнымі дапушчэннямі можна аб'яднаць найменнем «міфа(фальклорна)цэнтраваная навелістыка», у гэтым праекце амаль палова: «Спадарыня Трынога» К. Мядзведзевай (адзіная «маленькая аповесць» у нумары); «Паляндра», «Ціхія Людцы» У. Гурыновіч; «Эглея» Д. Жугжды; «Гульня» С. Белаяра (апошні аўтар вызначае ў падзагалоўку жанр свайго тэксту як «фантастычнае апавяданне»).

Галоўнай крыніцай (фабул, персанажаў, выяўленчых сродкаў) і адначасова «вытворчай прасторай» у гэтым выпадку з'яўляецца дэманалогія, прычым, у варыянце, на першы погляд, «інтэрнацыянальным». Але пры больш пільнай увазе выяўляецца нацыянальная цэнтраванасць мастацкіх хранатопаў. У К. Мядзведзевай і асабліва ў У. Гурыновіч яна больш выразная; у іншых — ускосная. Але адмысловая — дэкараваная ў духу літаратурнага хорару, падбадзёраная прыёмамі трылера, — рамантызацыя беларускага хранатопа ўтрымлівае творы ўсіх гэтых аўтараў як бы ў адным сілавым полі. Напрыклад, пры ўсёй няпэўнасці «хронасу» твора К. Мядзведзевай «Спадарыня Трынога» «топас» — спецыфічна беларускі. І «нетутэйшыя» імёны галоўных герояў (Блерта, Грэн), і «інтэрнацыянальныя» дэманічныя вестуны, і нават эканомна-нешматслоўная апавядальнасць (гэткая «тэхніка дакладных намёкаў»), — усё гэта толькі паглыбляе ўражанне пагружэння ва ўнутранае мора «тутэйшасці», «спарахнелага мястэчка» з яго гусямі, жалейкамі і… водарам свежапрыгатаванай кавы.

Аповеды У. Гурыновіч падаюцца цэнтраванымі на беларускім традыцыйным фальклоры з яго адмысловай іерархіяй нячысцікаў. Зрэшты, тут фэнтэзійны кантэкст рашуча заяўляе пра свае намеры засяліць ваколіцы тутэйшых вёсак сваімі «людзьмі»: побач з Рахманымі (яны ж Ціхія Людцы), ведзьмамі, русалкамі ды «крылатымі карузлікамі» нябачна віруюць эльфы, эльфійкі, феі. У аповедзе «Ціхія Людцы» ўсяго многа: досыць дынамічны сюжэт; хранатоп «кірмашнага» кшталту, дзе ў адным шэрагу гарманічна глядзяцца дырыжаблі, аўто, даматканыя спадніцы і вечарыны эльфаў. Пры гэтым структураўтваральную ролю выконвае маральна-этычная праблематыка (выбар паміж каханнем і неўміручасцю), а стылявой дамінантай па выніку бачыцца прыпавесцевасць.

***

…У строгай адпаведнасці з назвай свайго твора «Гульня» С. Белаяр гуляе самааддана: з чытачом — у постмадэрн, пры гэтым пільна сочыць, каб створаныя ім персанажы з мартальнай (без перабольшванняў) гульні мелі толькі адзін *exit*. Гэта адзін з рэдкіх «некароткіх» аповедаў у спецыяльна-фантастычным выпуску «Маладосці». Таму напачатку нетаропкасць уводзін — скрупулёзнае апісанне пакутлівага шляху дваццаці васьмі французаў у 1812 годзе ў кірунку Вільні — не ўспрымаецца як зацягнутасць. Такое сабе абяцанне чаканай «Вайны і міра»: аўтар уводзіць чытача ў курс справы па-беларуску, а «нязвыклыя да холаду захопнікі» — па-французску. Магчыма, празаік мае досвед эксперыментальных доследаў у галіне чытацкай актыўнасці. Бо якраз у той момант, калі нетаропкасць «Гульні» набывае абрысы пташнікаўскай «Алімпіяды», *здараецца* тое, што аўтар кваліфікуе як «фантастычнае», а мы — як «дэманалагічнае» з элементамі літаратурнага экшну і хорару. Пры гэтым прадстаўнікі тутэйшай дэманалагічнай супольнасці вольна размаўляюць па-французску, вусцішныя дэкарацыі падсвечваюцца іранічнымі ўмаўчаннямі, а ў сувязі з адкрытым фіналам гульня, як па мне, дык і не *over*…

***

…«Галаадская пустыня» Лаўрэна Юрагі (як, дарэчы, і «Дзіця зямлі» Алёны Беланожкі), на першы погляд, утрымлівае ў роўных прапорцыях адзнакі і міфацэнтраванай навелістыкі, і навуковай фантастыкі з элементамі фэнтэзі. Але толькі на першы погляд: згаданыя аповеды Л. Юрагі і А. Беланожкі не столькі міфацэнтраваныя, колькі *міфалагемна арыентаваныя*, калі разумець пад міфалагемай свядомае запазычанне ў міфа матыву, тэмы ці яе часткі і аднаўленне ў больш позніх фальклорных і літаратурных творах.

Фабульнай асновай «Галаадскай пустыні» з'яўляецца старазапаветная гісторыя прарока Іліі, апісаная ў трэцяй і чацвёртай кнігах Царстваў. Вытокі хранатопа, як і «паходжанне» герояў, як і падзейнасць — падкрэслена празрыстыя. <…> Дзейсным сродкам мастацкага ўрэчаўлення біблейскіх міфалагем (сюжэтных матываў, вобразаў) становіцца ў аповедзе Л. Юрагі перайманне старазапаветнага пафасу, рыторыкі, як бы агалошванне стылю мыслення ў стылі маўлення. Жанравыя структуры фантастычнай рабінзанады на працягу ўсяго твора ціха, але так паслядоўна канфліктуюць са зместам і пафасам, што міжволі ўзнікае прадчуванне нейкага жанравага штукарства. Цьмянае напачатку, прадчуванне паступова ператвараецца ў чаканне, якое аўтар не падманвае. Уварванне ў падзейнасць «Галаадскай пустыні» фінальных акордаў «касмічнай оперы» здольнае пераканаць самага непрэтэнцыёзнага чытача ва ўласнай праніклівасці. І толькі звышудзячны чытач згадае пра клопат аўтара, які з самага пачатку расстаўляў па тэксце нават не знакі — слупы-ўказанні на гэткую «неспадзяванку». Уражвае, дарэчы, і шматфункцыянальнасць гэтых «іншаўказанняў». Вось хоць бы наяўнасць у XXI стагоддзі беларускай эскадрыллі, адпраўленай аўтарам у другім абзацы «на ўзмацненне злучанага знішчальнага корпуса, што дыслацыраваўся ў Паўночнай Афрыцы»: гэтая дэталь акрамя сюжэтнай выконвае і функцыю аксіялагічную, бо калі ёсць беларуская касмічная эскадрылля, значыць, ёсць і Беларусь.

***

…У пэўным сэнсе «фантастычны» маладосцеўскі праект стаўся амаль ідэальнай ілюстрацыяй да некаторых палажэнняў дысертацыйнага даследавання М. Аммон, прысвечанага паэтыцы і тыпалогіі сучаснай беларускай фантастыкі. Тут табе і «жанравы сінтэтызм», і «высокі аксіялагічны патэнцыял айчынных твораў» (у тым ліку тых, на жанравы ландшафт якіх «значны ўплыў… аказала масавая культура»). Напрыклад, у яшчэ адным міфалагемна залежным (гэтым разам — ад антычнасці) аповедзе А. Беланожкі «Дзіця зямлі» адлегласць паміж практопіяй, фэнтэзі і меладрамай вымяраецца, здаецца, некалькімі ўзмахамі крылаў аднаго з галоўных герояў — Ікара:

- адштурхоўваемся ад абяцання *love story*;
- крыху лунаем над кароткімі ўводзінамі ў тамтэйшае грамадазнаўства (соцыум, дзе роля кожнага вызначаецца шляхам «генетычнай селекцыі» і дэтэрмінуецца наяўнасцю ці адсутнасцю пэўных органаў, частак цела: Дзеці Неба, Дзеці Мора, Дзеці Зямлі);
- рашуча кіруемся ў паветраную плынь меладрамы;
- а ўжо ўсё добра (у сэнсе — *happy end*).

А паміж узмахамі крылаў — экзатычныя пейзажы-ландшафты, родава-класавыя бездані, сямейныя таямніцы і жыцці некалькіх пакаленняў… Інакш кажучы, створаны А. Беланожка свет з матрыцы выпінаецца — катэгарычна і разнастайна, то бок усімі жабрамі, крыламі і герцагскімі палацамі…

***

…Суровасць як характаралагічная рыса ўсяго НайБелЛіту ў маладосцеўскім праекце выяўляецца адметным чынам: напрыклад, упарта прарастае ў «фантастычным» кантэксце творамі А. Бязлепкінай «Інтэрв'ю на памяць» і В. Лупасіна «Лятучы калегіум», што, у сваю чаргу, выяўляюць набольш блізкае сваяцтва з *метарэалізмам*…

Вонкава тэксты будуюцца з «матэрыялу» (сюжэтна-кампазіцыйнага, вобразна-выяўленчага) і па «тэхналогіі» рэалізму, з ашчадным выкарыстаннем элементаў навуковай фантастыкі (у А. Бязлепкінай) ці эзатэрыкі (у В. Лупасіна). Прыгаломшвае вынік: рэалістычны вобразна-выяўленчы «ландшафт» выяўляе сваю сапраўдную функцыянальнасць толькі тады, калі становіцца трыумфальнай аркай для метарэальнасці як адзіна магчымай сапраўднасці, што існуе ў формах няяўных, няўлоўных, нярэчыўных.

***

…У «Лятучым калегіуме» В. Лупасіна чатыры кароткія аповеды аб'ядноўваюцца не толькі фармальна (назвай-«шыльдай»), але і тэматычна. «Дзед на роварах», «Коды», «Палёты над Масквой», «Зброя» — гэта адначасова і самастойныя іранічныя фрэскі з жыцця нейкіх загадкава-нетутэйшых студэнтаў, і папулярныя ўводзіны ў «нейкую тэорыю левітацыі і тэлепартацыі». Ідэя не тое каб новая ў нашых літаратурных ваколіцах: напрыклад, не далей як у 2010 годзе расійскі пісьменнік Дзмітрый Быкаў выдаў гістарычна-авантурны раман «Астромаў, ці Вучань чарадзея. Дапаможнік па левітацыі», фабульна ўгрунтаваны ў так званай «справе ленінградскіх масонаў» (1925 — 1926 гг.). В. Лупасін на раман і не замахваўся. Звыкласць незвычайнага (тут: эзатэрычнага) сталася структураўтваральным прынцыпам, з дапамогай якога асобныя міні-навелы склаліся ў зборнічак «практыкаванняў па левітацыі». На карысць цэльнасці «Лятучага калегіума» спрацавала і адмысловая расстаноўка персанажаў: студэнты то па адным (Вісюлін), то дуэтамі (Яўген Сяргееў, Каця Карабанава) блукаюць (сыходзяцца-разыходзяцца) па розных фрэсках, не пакідаючы, аднак, арбіты персанажа, выпісанага штрыхамі, але жывейшага за ўсіх жывых — выкладчыка Рамуальда Вальдэмаравіча…

***

Дазволім сабе ў размове пра фантастыку падвесці ўмоўныя вынікі амаль фантастычным чынам.

Дапусцім, празаічны сегмент «фантастычнага» праекта «Маладосці» — ідэальная мадэль, назіранні за ўласцівасцямі якой з вялікай доляй верагоднасці дазваляюць меркаваць пра працэсы ў рэальным (літаратурным, даруйце за гіперфантастычнасць) жыцці.

Тады:

найбольшыя шанцы нарадзіцца фантастам — у Мінску (4 да 10) і Брэсце (3 да 10);

беларускія спадарыні ды паненкі больш актыўна асвойваюць літаратурную фантастыку, чым спадары (60 % супраць 40 %);

у трэндзе — міфа(фальклорна)цэнтраваная проза, з перавагай навелістыкі.

Што датычыць найноўшай беларускай фантастычнай прозы, то яна:

- самая дэманалагічная;
- самая чуллівая;
- самая гуллівая;
- самая самаіранічная (сярод самых самакрытычных найноўшых літаратур).

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

***Цалкам артыкул можна будзе прачытаць у часопісе «Маладосць» № 5.**

# Прафесія — творца?

**Чатыры гады ў Інстытуце журналістыкі працуе напрамак у агульнай спецыяльнасці «Літаратурная работа» — «Літработа (творчасць)». Гэты сціплы, заціснуты ў дужкі прыдатак выклікаў шмат спрэчак яшчэ падчас першага набору студэнтаў на спецыяльнасць. Адны з энтузіязмам віталі такі навучальны эксперымент, іншыя са скепсісам заўважылі, што пісьменнікам быць не навучыш. Людміла Саянкова, загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, у адказ на такія заўвагі стомлена падкрэслівае, што «творчасць» — вельмі шырокае паняцце, і нельга ставіцца да спецыяльнасці як да пісьменніцкай кузні. Зрэшты, лепей пра ўсё пачуць ад самой спадарыні Людмілы, тым больш цяпер, праз чатыры гады, калі першы набор можна лічыць амаль «саспелым».**

— Спецыяльнасць «Літаратурная работа (творчасць)» адкрывалі з разлікам на тое, што факультэт падрыхтуе спецыялістаў па літаратурнай рабоце ў розных сродках масавай інфармацыі і ў розных відах мастацтва. Так, выпускнік можа пісаць сцэнарыі для тэлебачання, працаваць у літаратурнай частцы ў тэатрах ці займацца ўласна прозай, паэзіяй ці драматургіяй. Асноўная мэта — падрыхтаваць спецыялістаў у розных відах літаратурнай дзейнасці. Аднак калі пачалася практыка, стала зразумела, што гэта вельмі цяжка, непад'ёмна — за пяць гадоў, а па новым плане навучання — і за чатыры, падрыхтаваць паэтаў, празаікаў, драматургаў. Гэтак жа немагчыма падрыхтаваць журналістаў, бо здольнасці альбо ёсць, альбо іх няма.

Для таго каб рыхтаваць літаратараў, трэба ствараць пэўныя ўмовы. Гэта значыць, набраць такія прадметы, зрабіць такі план, які б прадугледжваў падрыхтоўку толькі гэтых спецыялістаў. Трэба, каб спецыяльнасць ішла па кірунках і майстэрнях. Напрыклад, мы запрашаем паэта, ён набірае сваю майстэрню і як майстар вядзе творчы курс цягам некалькіх гадоў. Важна, каб студэнты адчувалі кантакт з настаўнікам, як гэта бывае ў Літаратурным інстытуце, у Інстытуце кінематаграфіі ў Маскве, які я сама калісьці заканчвала. А ў нас такога фармату не існуе, ёсць толькі агульны навучальны план, па якім вучацца ўсе студэнты. У кожнай са спецыяльнасцей ёсць агульныя прадметы, так што на першых двух курсах студэнты спецыяльнасці «Творчасць» вывучаюць і вёрстку, і аўдыёвізуальную журналістыку. Толькі пазней укліньваюцца ў агульную падрыхтоўку спецыяльныя прадметы — па паэзіі, па мастацкім перакладзе, па тэатральным і кінамастацтве і інш. Але ж гэта толькі кроплі ў навучальным моры. Яны даюць нешта для агульнага развіцця, але для сапраўднай прафесійнай падрыхтоўкі...

**— Адкрыць новую спецыяльнасць — гэта ідэя саспела ў сценах журфака ці прыйшла звонку?**

— Прыйшло распараджэнне Адміністрацыі Прэзідэнта, якое ставіла за мэту пашырыць літаратурнае кола. Але ўсё гэта ўяўляецца агульным катлом, у які трэба кідаць, і кідаць, і кідаць — студэнтаў, прадметы, — а што там выплавіцца… Пакуль не ведаю.

Зрэшты, на факультэце журналістыкі заўжды існавала традыцыя: на курсе абавязкова вучыліся людзі, якія цікавіліся не журналістыкай, а літаратурай. З журфака выйшлі Мікола Аўрамчык, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Генадзь Бураўкін, Іван Чыгрынаў, Іван Пташнікаў, Святлана Алексіевіч. Нават кінематаграфісты: Ігар Дабралюбаў, знакаміты аўтар «Белых росаў» — наш выпускнік; Анатоль Алай — дакументаліст, які мае шмат прэмій, — наш выпускнік… Шмат выпускнікоў журфака, якія зарэкамендавалі сябе ў мастацтве. Між тым, што адмысловых спецыяльнасцей не было.


Фота Кастуся Дробава

Сказаць, што спецыяльнасць «Літработа (творчасць)» — кузня па падрыхтоўцы літаратурных кадраў, — вельмі амбіцыёзна. Але я ўсё ж такі спадзяюся, што сярод яе выпускнікоў будуць гучныя імёны. Аднак такія выпускі не могуць быць масавымі, нават пасля Літінстытута такога не бывае.

Не скажу, што шмат людзей ірвецца на гэтую спецыяльнасць. Пэўна, час не той, і цікавасць да творчасці не тая. Ды і статус літаратуры цяпер не такі, не тая матэрыяльная падтрымка. Маладыя людзі цяпер вельмі прагматычныя: не факт, што «літаратурная» прафесія будзе іх карміць. І пакуль дзяржава не падтрымае такіх спецыялістаў, напрамак не стане папулярным. Быў нават год, калі мы не змаглі набраць групу. Сёння ж у найменшай групе вучыцца сем чалавек. Але іх і не можа быць шмат.

**— Большасць, напэўна, складаюць дзяўчаты?**

— Так. У нас усяго два хлопцы на тры курсы. Але гэта ўвогуле праблема ўсяго журфака.

**— А якія ўступныя экзамены ў такіх «творчых студэнтаў»?**

— Такія, як і ўва ўсіх. Творчае сумоўе і сачыненне. Адрозненне толькі ў тым, што для астатніх вельмі важна, каб былі публікацыі. А для гэтай спецыяльнасці патрэбныя літаратурныя творы — набраныя ці напісаныя ад рукі, як атрымаецца. Вершы, празаічны вопыт — прымаецца ўсё. Калі ж іншыя абітурыенты прыносяць паэтычныя радкі, гэта не вельмі прываблівае камісію... Памятаю, першы набор праходзіў без конкурсу. Прынялі ўсіх, хто прыйшоў. Таму — што ёсць, з тым і працуем. Магчыма, спецыяльнасць яшчэ не такая раскручаная. Можа, пасля першых выпускаў, калі яны праявяць сябе, справа пойдзе на лад.

**— Ці ёсць у такіх студэнтаў нешта, што кардынальна ці вельмі моцна адрознівала б іх ад іншых студэнтаў?**

— Яны растуць, і працэс росту заўважны. На першым курсе былі ніякія. На чацвёртым — ужо якіясьці. На пятым курсе, магчыма, стануць такімі, што на іх можна будзе паглядзець знізу ўверх. Але і цяпер ёсць цікавыя людзі: Ганна Дусь, якая піша вершы і, здаецца, нядрэнныя; Паліна Піткевіч піша літаратурныя творы, але з цягам часу, як мне здаецца, зможа працаваць і як крытык; ёсць Яўген Сінічэнка, алё ён, на маю думку, больш цягнецца да журналісцкай працы.

**— А ўсё ж збольшага гэтыя студэнты трымаюцца журналістыкі ці літаратурнай дзейнасці?**

— Больш літаратурнай. Гэта закладзена ў іх ад самага пачатку: яны ішлі менавіта на літаратурна-мастацкую творчасць. А вось з цягам часу, пасля практыкі, мэты канкрэтызуюцца, і многія ўжо не бачаць сябе ў літаратурнай творчасці. Хтосьці ўвогуле не бачыць сябе журналістам. Не сакрэт, што пасля журфака журналістамі застаецца вельмі мала людзей. Калі мы раней саромеліся сказаць, што не бачым сябе ў журналістыцы, адчуўшы, што гэта не наша, то цяпер студэнты не саромеюцца. Яны адкрыта кажуць: мы і не думаем пра журналістыку. Матываванасць у сучасных студэнтаў надзвычай нізкая. Яны ідуць па дыплом, а не па веды і прафесію. Масавая дыпламізацыя насельніцтва нядобра ўплывае на статус вышэйшай адукацыі.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Каб «людзьмі звацца»

**Кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Мікалай Шчаўлінскі вядомы грунтоўнымі працамі ў галіне гісторыі айчыннай культуры. Найноўшая з іх — манаграфія «Развіццё культуры Беларусі (1863 — 1917 гг.)».**

Комплексны аналіз культурных працэсаў патрабуе дасканалага ведання усіх галін культуры і ўсёй сукупнасці чыннікаў, якія дэтэрмінуюць гэтыя працэсы. Дацэнт БНТУ адначасова выступае як гісторык, культуролаг, літаратуразнаўца, мастацтвазнаўца, этнограф, сацыёлаг, палітолаг. Галоўны аргумент аўтара — моцная крыніцазнаўчая база. Аўтар абапіраецца на яе, выкарыстоўваючы як агульнанавуковыя, так і спецыяльныя гістарычныя метады.

Першы раздзел — «Фарміраванне беларускай нацыі і развіццё культуры Беларусі ў другой палове XIX ст.». У гэты адрэзак часу можна прасачыць складаны, супярэчлівы, але вельмі важны працэс станаўлення беларускай нацыянальнай культуры. З аўтарам можна пагадзіцца ў тым, што «паскарэнне пасля рэформы 1861 г. тэмпаў эканамічнага развіцця, пашырэнне капіталістычнага прадпрымальніцтва ў прамысловасці, паступовая пераарыентацыя памешчыцкіх гаспадарак на рынак, інтэнсіўнае чыгуначнае будаўніцтва спрыялі стварэнню на тэрыторыі Беларусі адзінага эканамічнага рэгіёна, станаўленню буржуазнага грамадства і беларускай нацыі».

У манаграфіі вычарпальна паказаны чыннікі, якія працавалі супраць станаўлення нацыі. Так, «слабасць нацыянальнай эканамічнай эліты — буржуазіі — стала прычынай нешматлікасці і нацыянальнай інтэлігенцыі, той часткі людзей, якія непасрэдна фарміравалі нацыянальна-патрыятычную і мастацка-эстэтычную свядомасць беларускага народа». Затое «значную ролю ў пашырэнні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, усведамленні свайго аблічча, месца ў свеце адыгрывала літаратура». Гэта тэза дацэнта БНТУ падмацоўваецца аналізам спадчыны К. Каліноўскага.

М. Шчаўлінскі выглядае майстрам сістэмнага аналізу, паказваючы зрухі ў галіне народнай адукацыі. Расійскі ўрад пайшоў на яе рэфармаванне.

«Вынікі школьнай рэформы на Беларусі былі больш сціплымі ў параўнанні з Расіяй. Справа ў тым, што пагоршыліся адносіны царскага ўраду да ўдзельнікаў паўстання 1863—1864 гг.

Як вынік, былі закрыты Горы-Горацкі земляробчы інстытут, Навагрудская гімназія, Свіслацкая і Навагрудская прагімназіі. Агульны ўзровень народнай асветы заставаўся нізкім. Пачатковых школ было вельмі мала, сярэднія існавалі толькі ў найбольш буйных гарадах. Больш таго, пад сцягам барацьбы з паланізмам царскі ўрад забараняў выкладанне ў школах не толькі на польскай, але і на беларускай мовах».

У кнізе ўдала паказана ажыўленне музычнага мастацтва, пашырэнне змястоўнай часткі ў дзейнасці народнага тэатра, першыя крокі ў кірунку фарміравання прафесійнага тэатра на айчыннай тэрыторыі. М. Шчаўлінскі ажыццявіў разбор творчай спадчыны мастакоў К. Альхімовіча, Н. Сілівановіча, Д. Баркоўскага, В. Сляндзінскага і інш. «Адной з адметных рыс гісторыі беларускага жывапісу другой паловы XIX ст. з'яўляецца ўмацаванне сувязяў прагрэсіўных беларускіх мастакоў з мастакамі іншых народаў».

Аналізуючы раздзел, прысвечаны культуры Беларусі ў 1900 — 1914 гг., трэба ўлічваць, што гэты адрэзак часу ў змястоўным плане больш насычаны, чым папярэдні перыяд. Мінскі навуковец пераканаўча паказаў, што «нягледзячы на розныя перашкоды як з боку афіцыйных царскіх улад, так і з боку польска-клерыкальных колаў, беларуская дэмакратычная інтэлігенцыя працягвала барацьбу за нацыянальна-культурнае адраджэнне».

Больш за ўсё праблемных палёў даследчык засвоіў у трэцім раздзеле «Развіццё культуры Беларусі ва ўмовах Першай сусветнай вайны (1914 — 1917 гг.)». Істотна, што тэма гэтая даволі слаба распрацавана ў навуковай літаратуры. У дадзеным раздзеле навуковая навізна яскрава прасочваецца па наступных пазіцыях.

Па-першае, дацэнт БНТУ ўпершыню ў айчыннай беларусістыцы паказаў, што «адным з дзейсных накірункаў нацыянальна-культурнага руху на Беларусі ў пачатковы перыяд вайны з'яўляўся педагагічны рух. Гэтую з'яву можна растлумачыць тымі абставінамі, што ў пачатку вайны з боку царскіх уладаў быў значна паслаблены нагляд за ўстановамі народнай асветы. Пагэтаму многія настаўнікі мелі магчымасць весці барацьбу за навучанне ў школах на беларускай мове, выступаць за дэмакратызацыю вучэбна-выхаваўчага працэсу, за арганізацыю і стварэнне новых школ».

Па-другое, сфармулявана арыгінальная версія гісторыі беларускага тэатра ў 1914 — 1917 гг., па-новаму асветлены гэты адрэзак часу ў творчай біяграфіі такіх тэатральных дзеячаў, як У. Фальскі, Ф. Ждановіч, Г. Грыгоніс, У. Галубок і інш.

І нарэшце трэцяе. Зварот да недаследаваных аспектаў гісторыі беларускамоўнага друку. Навукоўца даказаў, што менавіта «прэсе належала вядучае месца ў пашырэнні нацыянальнай самасвядомасці». У першую чаргу гэта датычыць газет «Наша ніва» і «Беларусь».

З вялікай асалодай чытаецца дадатак. Тут змешчаны верш Я. Купалы «Беларушчына», Прывітальны верш Першаму з'езду беларусаў ваякаў А. Зязюлі, зварот І. Дварчаніна «Да беларусаў-інтэлігентаў», верш «Белоруссия» П. Бадуновай, зварот А. Ліпавіка «Первому Общебелорусскому съезду».

У выніку «развіццё беларускай культуры ў перыяд 1863 — 1917 гг. сведчыць пра тое, што асноўная частка беларускага грамадства і найперш нацыянальна-дэмакратычная інтэлігенцыя, падышлі да поўнага разумення неабходнасці «людзьмі звацца».

**Міхась СТРАЛЕЦ**
**доктар гістарычных навук, прафесар Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта**

***Унікальны праект***

# Незаклятыя скарбы

У беларускіх казках, легендах ці паданнях часта можна сустрэць гісторыі пра скарбы, схаваныя ў зямлі і абароненыя моцнымі закляццямі. Такія каштоўнасці пасля знаходкі ніколі не «дадуцца ў рукі», прынясуць шукальніку нястачу ці хваробы, будуць старацца «вырвацца», каб зноў вярнуцца на сваё месца. Мы ж павядзём гаворку пра зусім іншыя скарбы. Яны таксама схаваныя далёка ад вачэй беларусаў, ды аберагаюцца не закляццямі, а пільнай увагай і клопатам музейных супрацоўнікаў. Пасля знаёмства з гэтымі багаццямі чалавек не зазнае хваробы ці гора, а наадварот, будзе яшчэ больш ганарыцца мінулым свайго народа, сваёй роднай культурай.

Так, у Беларускім Доме друку пабачыла свет вельмі адказная кніга, кніга-свята — ілюстраваны каталог «Скарбы музеяў Беларусі». Гэты ўнікальны праект падрыхтаваны Інстытутам культуры Беларусі ў супрацоўніцтве з музеямі краіны. На яго старонках прадстаўлена 250 самых яркіх і знакавых прадметаў з 32 музеяў Беларусі. Аўтар мастацкага рашэння кнігі — вядомы дызайнер Усевалад Свентахоўскі. Першы наклад каталога — усяго 300 асобнікаў, таму кніга нават адразу пасля выхаду можа лічыцца рарытэтам, тым больш калі ўлічваць надзвычай шырокую патэнцыяльную аўдыторыю выдання.

Падчас прэзентацыі каталога, што не так даўно прайшла ў Інстытуце культуры Беларусі, міністр культуры краіны Барыс Святлоў падкрэсліў:

— Калі я пабачыў грунтоўнае выданне «Скарбы музеяў Беларусі», то адразу зразумеў, што гэта якраз той праект, якога мы чакалі даўно. Ён цалкам адпавядае патрэбам сённяшняга часу. З аднаго боку, перад намі вынікове, грунтоўнае, добра ўпарадкаванае навуковае выданне, якое ахоплівае вялікі перыяд развіцця айчыннай культуры. З іншага боку, гэта і добра выдадзеная кніга, якая заслугоўвае прадстаўлення не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой.

І сапраўды, людзі, далёкія ад музейнай справы, нават і не здагадваюцца, што ў глыбіні запаснікаў розных устаноў хаваецца такое вялікае нацыянальнае багацце, якое часам надта раўніва і эгаістычна аберагаюць супрацоўнікі. Думаецца, нават і не варта падкрэсліваць надзвычай высокі адукацыйны і выхаваўчы патэнцыял выдання: фотаздымкі артэфактаў, прадстаўленыя на яго старонках, могуць прывіць мастацкі густ маладым беларусам, паказаць жывое сведчанне мінулага нашага краю і тым самым садзейнічаць развіццю нацыянальнай самасвядомасці многіх пакаленняў.

Што да раўнасці і эгаізму музейных супрацоўнікаў, то пры падрыхтоўцы гэтага выдання іх не назіралася. Многія кіраўнікі музеяў былі досыць шчодрымі, прадставіўшы Інстытуту культуры Беларусі права першай публікацыі фотаздымкаў і звестак пра самыя каштоўныя прадметы са збораў. Ёсць у гэтым і ўласны інтарэс кожнай з устаноў. Як распавёў дырэктар Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, кандыдат гістарычных навук Юрый Кітурка, нягледзячы на тое, што многія музеі выдаюць уласныя каталогі, часам сіл і намаганняў не хапае для рэалізацыі такіх аўтаномных праектаў. Агульная задумка Мінкульта, рэалізаваная Інстытутам культуры Беларусі, дазволіла прадставіць шырокай публіцы прадметы са збораў розных музеяў і тым самым сцвердзіць юрыдычнае права кожнай з устаноў валодаць імі — праз дакументальную фіксацыю прыналежнасці да пэўнага збору.

Ірына Лапцёнак, куратар праекта па падрыхтоўцы каталога «Скарбы музеяў Беларусі», кандыдат філалагічных навук, прарэктар Інстытута культуры Беларусі, падчас прэзентацыі распавяла:

— Праект пачынаўся яшчэ напрыканцы мінулага года. Напачатку не заўсёды было зразумела, якія менавіта артэфакты мусілі быць уключанымі ў кнігу, бо кожны музей разумеў задачу па-свойму. Але самай складанай справай было адабраць матэрыял з таго багацця, што мы назбіралі ды наздымалі. Даводзілася выбіраць толькі самае каштоўнае і цікавае.

*Фота Валерыя Сібрыкава*



*Прарэктар Інстытута культуры Беларусі Ірына Лапцёнак прадстаўляе каталог «Скарбы музеяў Беларусі».*

Я лічу, што без дапамогі музейшчыкаў такога выдання не атрымалася б. Бо ў музеях працуюць спецыялісты, якія валодаюць навуковай атрыбуцыяй, збіраюць, зберагаюць нашы каштоўнасці. Прыемна, што падчас стварэння каталога многія з іх усведамлялі ўсю значнасць працы. Аўтары фотаздымкаў з кнігі — таксама музейныя работнікі. Па сутнасці, праект адбыўся дзякуючы нашай музейнай супольнасці, без прыцягнення шырокіх спецыялістаў з іншых сфер. Шмат цікавых прадметаў захоўваецца ў рэгіёнах, і гэта не толькі абласныя ўстановы, але і раённыя. Там ёсць экспанаты, прадстаўленыя ў адзіным экзэмпляры! Дзякуючы стварэнню гэтай кнігі мы змаглі дастаць з фондаў і рэпрэзентаваць тое, чаго яшчэ не бачыў наведвальнік. Хацелася б, каб гэтае выданне для музейных спецыялістаў стала пачаткам новага этапу ў вывучэнні і прэзентацыі каштоўнасцей, каб яны звярталі большую ўвагу на афармленне экспазіцый, уключаючы туды толькі самае лепшае, значнае, цікавае нашаму наведвальніку.

— Выданне, што сёння прадстаўляецца публіцы, мае выключна важнае значэнне перш за ўсё для нас саміх, беларусаў, для нашай краіны, — падкрэсліў у сваёй прамове доктар філалагічных навук прафесар Аляксандр Лукашанец. — Дзякуючы гэтай кнізе мы можам самі для сябе адкрыць багацце беларускай культуры. Моўнае афармленне праекта абсалютна правільнае і карэктнае: матэрыял падаецца на беларускай, рускай, англійскай мовах. Апошнім часам пачынае актыўна абмяркоўвацца і нават прапагандавацца ідэя адзінай культурнай прасторы. Часта гэты працэс разумеецца як пашырэнне пэўнай культуры на іншы абшар. Але мне падаецца, што такое сцверджанне абсалютна няправільнае. Нам варта гаварыць пра агульную культурную прастору, у якой знойдзецца месца кожнай асобнай нацыянальнай культуры. Гэта ўзаемаскіраваны працэс. Выданні такога тыпу, а таксама веданне сваёй гісторыі дазваляюць і нам, беларусам, заняць належнае месца ў агульнай прасторы.

Будзем спадзявацца, што на гэтым выданні праца па адкрыцці музейных фондаў краіны не скончыцца. У каталогу «Скарбы музеяў Беларусі» прадстаўлены адно артэфакты, якія датуюцца ранней, чым пачаткам XIX ст. А колькі яшчэ значных прадметаў са сваёй гісторыяй ёсць у нашай краіне! Больш за тое, нават гэты праект можа быць рэалізаваны ў крыху больш дэмакратычным выглядзе. Шыкоўнае падарункавае выданне на мелаванай паперы з залачоным абрэзам набудзе далёка не кожны, а вось матэрыял, прадстаўлены на электронным носьбіце ці ў выглядзе базы дадзеных на сайце, безумоўна, зацікавіць надзвычай шырокае кола аматараў беларушчыны.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Хай цвіце купальская кветка




Метадычны дапаможнік «Купальскі зборнік», які выйшаў у выдавецтве Дзяржаўнай установы адукацыі «Інстытут культуры Беларусі», створаны ў межах праекта «Народная спадчына Бацькаўшчыны» і з'яўляецца першай часткай у серыі метадычных выданняў паводле этнафоніі беларускіх каляндарных свят і прымеркаваных да іх пазаабрадавых практык.

Аўтар дапаможніка Таццяна Пладунова, старшы выкладчык кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, вядомы этнапедагог, артыст-вакаліст вышэйшай катэгорыі, сабрала лепшыя ўзоры купальскіх песень этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі. Яны былі ў розныя гады запісаны знанымі айчыннымі фалькларыстамі Рыгорам Шырмам, Генадзем Цітовічам, Зінаідай Мажэйка, Галінай Таўлай, Тамарай Варфаламеевай, а таксама студэнтамі і выкладчыкамі спецыялізацыі «Этнафоназнаўства» БДУКіМ. Сістэматызацыя рэпертуару зборніка па-мастацку пераасэнсавана і абапіраецца на багаты ўласны досвед аўтара па праяўленні фальклорных свят у гарадскім ландшафце (нават з улікам рэгіянальных абрадавых і музычных традыцый).

Таццяна Пладунова атрымала свой першы купальскі досвед у 1996 годзе ў легендарным месцы святкавання постфальклорных Купалляў — вёсцы Вязынка. А ўжо ў 1999-м яна разам са сваімі выхаванцамі з гурта «Верас» і паплечнікамі з гурта «Ветах» (кіраўнік В. Калацэй) падхапіла купальскую эстафету і з гэтага часу штогод выступае адным з завадатараў свята ў ваколіцах Мінска.

Задачай дапаможніка з'яўляецца папулярызацыя найважнейшай формы творчай камунікацыі паміж людзьмі — народнай песні. Вядома, гэта квінтэсенцыя традыцыйнага каляндарнага свята, якое і сёння здольнае прадэманстраваць жыццёвую сілу грамадства ў еднасці адзін з адным і з прыродай. Выданне створана з мэтай дапамагчы кіраўнікам дзіцячых і маладзёжных фальклорных калектываў не толькі абраць патрэбны рэпертуар да Купалля, але яшчэ і зладзіць свята ў адпаведнасці з абрадавай картай, распрацаванай аўтарам. Для традыцыйнай культуры беларусаў гэтая карта мае ўніверсальны характар і служыць для сістэматызацыі абрадавых кампанентаў фальклорных свят як даследчы метад іх мастацкага рэканструявання.

На пачатку кожнага раздзела зроблены невялічкія тэматычныя фотападборкі розных часоў з уласнай калекцыі аўтара. Планавалася, што справаздачная купальская фотагалерэя за апошнія 20 гадоў будзе вынесена ў дадатак, але візуальнага матэрыялу было настолькі шмат, што ён можа быць падставай асобнай работы. Хто ведае, можа, гэтым летам на фестывалі фальклору «Берагіня», які якраз праходзіць падчас Купалля, мы не толькі пачуем спевы Таццяны Аляксандраўны, але і пабачым фотавыстаўку, прысвечаную гісторыі праяўлення постфальклорнага свята?

**Вячка КРАСУЛІН**

## На паліцы

# Літкрытык з вуліцы?

Літаратура — сфера тонкая і неадназначная. Ёсць тыя, хто прафесійна займаецца літаратурай, — пісьменнікі альбо даследчыкі. Ёсць тыя, хто ўвогуле не чытае. А каго можна лічыць літаратурным крытыкам? Гэта — пісьменнік, навуковец, заўзяты чытач? Ці магчыма яго з'яўленне па-за акадэмічнымі коламі?

Чаму не? Калі творчасць пісьменніка і паэта (пагадзіцеся, не кожны з іх прафесійны філолаг) з'яўляецца адлюстраваннем настрою і стану грамадства, то рэакцыя літаратурнага крытыка — адлюстраванне стану сучаснай літаратуры. «Чалавек з вуліцы Літаратурнай» (Мінск: Рэгістр, 2013) — гэта зборнік-водгук асобы, апантанай чытаннем, на сучасную айчынную кнігу. Аўтар выдання — пісьменніца з Гродна Ірына Шатыронак.

Гэта жывы, востры і нераўнадушны водгук непрафесійнага крытыка і літаратуразнаўцы. У ім прасочваецца асоба, здольная адзначыць станоўчыя і праблемныя рысы ў сучасным прыгожым пісьменстве. Ад яе не схаваецца брыдкае. Ірына Шатыронак тонка адчувае літаратурны працэс і з'яўляецца яго творцам і спажыўцом.

Думаецца, духоўнае павінна «фізічна» прысутнічаць у нашым жыцці: выклікаць пачуцці і эмоцыі. Таму грамадству будзе блізкі заклік «крытыка з вуліцы»: беражыце і любіце літаратуру, не застаўайцеся абыякавымі, чытайце і думайце, разважайце, актыўна ўдзельнічайце ў літаратурным палілогу, пазбаўляйцеся коснасці і снабізму! Няўжо тое, што гэта чалавек «з вуліцы», не дазволіць нам яго пачуць?

**Таццяна ФАЛАЛЕЕВА**

## Прэзентацыя

# Кошык зор і вершаў

Прэзентацыя паэтычнага зборніка Лёлі Багдановіч, старшыні барысаўскага раённага літаратурнага аб'яднання «Натхненне», прайшла ў межах юбілейных мерапрыемстваў, прысвечаных 95-годдзю Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева горада Барысава. Кніга з лірычнай назвай «Зорны кошык» пабачыла свет напрыканцы мінулага года ў выдавецтве грамадскай арганізацыі «Беларуская асацыяцыя «Конкурс».

Гэта першая кніга паэтэсы, выдадзеная асобным зборнікам і адначасова — яе выбраныя творы. Супрацоўнікі дзіцячай бібліятэкі падрыхтавалі да прэзентацыі літаратурна-музычную кампазіцыю «Сабраўшая зорны кошык» і «правялі» прысутных у зале гасцей па дзевяці раздзелах зборніка, якія ўключаюць вершы пра Радзіму і родную мову, пра школьныя гады і, вядома ж, пра каханне. Вершы Лёлі Уладзіміраўны — шчырая і душэўная размова са сваімі сучаснікамі, са сваімі ўдзячнымі слухачамі. Яны прасякнуты любоўю і цеплынёй. На працягу святочнага мерапрыемства прагучала шмат вершаў і песень у выкананні Лёлі Багдановіч, а таксама супрацоўнікаў бібліятэкі.

Барысаўская паэтэса ў сакавіку стала лаўрэатам Міжнароднага літаратурнага конкурсу «Сям'я, адзінства, Айчына», з чым яе і павіншавалі падчас сустрэчы ў бібліятэцы.

**Людміла ЗАХАРЭВІЧ**

# Спажыва для душы

Кніжны рынак сёння прапануе выданні на любы густ, узровень і статус. Кожны аматар чытання можа знайсці на паліцах кнігарняў тое, што шукае. Нехта лузгае, як семкі, белетрыстыку і бульваршчыну, а нехта смакуе, як «Шато Лафіт», творы Умбэрта Эка альбо Карласа Кастанеды. А ёсць і тыя, хто мэтанакіравана даказвае, што літаратура — гэта перажытак мінулага, што чалавек развучваецца чытаць і што наогул знікае цікавасць да кнігі. І ведаеце, у наш імклівы век пачуць такое меркаванне не дзіўна, і часткова нават можна з ім пагадзіцца, калі бачыш вакол моладзь у навушніках, з планшэтамі і айфонамі, у якіх адны гульні ды іншыя забавы. Праўда, зрэдку можна ўбачыць на бліскучых маніторах набраны тэкст якога-небудзь твора. Але тут жа ўзнікае думка: «Гэта студэнт, і чытае ён электронную кнігу не для душы, а таму, што трэба здаваць экзамен…»

### ПРА ФОРМУ І ЗМЕСТ

Што да друкаваных кніг, то сёння яны таксама жывуць і іх па-ранейшаму чытаюць. Магчыма, менш, чым хацелася б, але чытаюць! Даўно вядомыя і новыя выдавецтвы змагаюцца за чытача, за права даносіць яму слова. Але ўсё ж не пра форму падачы матэрыялу хацелася б зараз пагаварыць, а пра змест. Што нясе сучасная кніга? Чаму вучыць? На што натхняе? Ці ёсць у наш час такія медыякампаніі, якія гучна «гавораць» пра хрысціянскія і агульначалавечыя каштоўнасці, пра сутнасць нашага жыцця, пра любоў і вечнасць?

Мне здаецца, што сёння ў нас няшмат рэдакцый, тыпаграфій і выдавецтваў, якія да выпуску кожнай кнігі, газеты, часопіса, іншай друкаванай прадукцыі ставяцца як да працягу Літургіі. Большасць усё ж скіравана на задавальненне эмацыянальных парываў чалавека, прапаганду душэўных, а не духоўных каштоўнасцей. Даваць людзям спажыву для душы, набліжаць да Бога — складаная задача.

Што ж рабіць? Ці трэба нешта мяняць?.. Пра што чытаць: зямное ці нябеснае, часовае альбо вечнае? Імкнуцца да чысціні ці заставацца ў пустэчы?..

Даць чалавеку выбар, паказаць альтэрнатыву, разабрацца, дзе душэўнае, а дзе духоўнае. Можна сказаць, з такой мэтай у 2001 годзе было створана выдавецтва ў Свята-Елісавецінскім манастыры Мінска. Ужо больш як 10 гадоў з малітвай і па благаславенні духаўніка абіцелі протаіерэя Андрэя Лемяшонка тут рыхтуецца друкаваная прадукцыя, напоўненая святлом Божай любові, літаратура, у якой можна знайсці адказы на ўсе пытанні.

### ЗРОБЛЕНА ПА БЛАСЛАВЕННІ

Першая кніга, падрыхтаваная ў манастыры, распавядае пра старцаў і сутнасць духоўнага кіраўніцтва, пра неабходнасць падпарадкоўваць сваю волю дасведчанаму настаўніку, без парад якога немагчыма ісці духоўным шляхам. Яна выйшла ў тонкай вокладцы на 100 старонках, змацаваных стэплерам, тыражом дзве тысячы экзэмпляраў і была надрукавана на рызографе — гібрыдзе ксеракса і афсетнай друкавальнай машыны. Кніга была складзена ў 2002 годзе манахіняй Еўпраксіяй (Шылянковай).

— Гэта была не мая ідэя, — прыгадвае матушка. — У манастыры ўсё робіцца па благаславенні і, хочацца верыць, па волі Божай. Тады манахіняй Марфай (Гуськовай), якая ўзначальвала выдавецтва, планавалася серыя падобных выданняў.

У 2002 годзе выйшла і другая кніга — «Лісты прападобнага Макарыя Апцінскага». Яна



*Фота з сайта obitel-minsk.by*

*Кіраўнік выдавецтва Свята-Елісавецінскага манастыра манахіня Антаніна (Сямёнава).*

была падрыхтавана сумесна з выдавецтвам праваслаўнага Брацтва ў імя Архістраціга Міхаіла і надрукавана на газетнай паперы ў «Беларускім Доме друку». У гэтай кнізе ўжо амаль 600 старонак, цвёрды пераплёт і тыраж 10100 экзэмпляраў. Курыраваў выхад кнігі інак Сергій (Міхнюк).

З'явіліся трэцяя, чацвёртая, пятая кнігі. Брашуры. Буклеты. Календары. Плакаты… Выдавецкі партфель пачаў папаўняцца. Кнігі сталі аздабляцца фотаздымкамі, малюнкамі. Паралельна ішоў пошук свайго чытача, прапрацоўваліся тэмы і кірунку дзейнасці, фарміраваўся калектыў, назапашваўся досвед. І сёння можна смела сказаць, што выдавецтва Свята-Елісавецінскага манастыра заняло сваю нішу, выпрацавала свой адметны стыль, па якім беспамылкова можна пазнаць манастырскае выданне.

— У выдавецтве я працую з моманту яго заснавання, — гаворыць тэхнічны рэдактар Марыя Масілевіч. — Яскравых выданняў шмат, нават не ведаю, якія вылучыць… Раіла б пачытаць серыю «Слова духоўніка». Гэта пропаведзі протаіерэя Андрэя Лемяшонка, яго адказы на пытанні прыхаджан і чытачоў сайта. Цікавая кніга «Шчаслівыя» — аповеды пра людзей, якія навучыліся любіць і якіх Бог забраў да Сябе.

У 2013 годзе выдавецтвам было падрыхтавана і выпушчана 79 назваў кніг, тыраж якіх складае ад тысячы да 30 тысяч экзэмпляраў. У пераліку не толькі богаслужэбныя выданні (Святое Евангелле, Часаслоў, малітвасловы, каноны, акафісты), але і духоўная, мастацкая літаратура, праваслаўныя календары, кнігі для дзяцей. Летась выйшлі кнігі такіх аўтараў, як Алена Міхаленка, Таццяна Дашкевіч, Андрэй Смятанін, Дзмітрый Шэвараў і іншых пісьменнікаў.




### «РАСКРУЧАНАЕ» ІМЯ — НЕ ГАЛОЎНАЕ

Сення ў штаце выдавецтва прыкладна 10 чалавек: рэдактары, карэктары, вярстальшчыкі, мастакі, дызайнеры. Ёсць сталыя аўтары і пазаштатныя супрацоўнікі. Трапіць у тыраж нават вядомаму пісьменніку няпроста. Прынесці і паказаць дзясяткі публікацый альбо кніг, надрукаваных у свецкіх структурах, недастаткова для таго, каб выдацца ў манастырскім выдавецтве.

— «Раскручанае» імя — далёка не галоўнае ў выбары аўтара, — лічыць кіраўнік выдавецтва манахіня Антаніна (Сямёнава). — Апроч таленавітага тэксту ў чалавека павінна быць сэрца, якое імкнецца да Бога, бо менавіта Ён даў той ці іншы талент. Мы павінны памятаць пра гэта і вяртаць Законнаму Уладальніку плады сваёй працы.

Так лічыць і галоўны рэдактар выдавецтва Аляксандр Бяганскі. На гэтай пасадзе ён з 2010 года. Для яго, як і для кожнага супрацоўніка выдавецтва, праца ў манастыры — не проста праца. Гэта найперш сумесная штодзённая малітва (з яе пачынаецца кожны працоўны дзень), пасля якой нараджаюцца і кнігі, і ўзаемаразуменне, і адчуванне духоўнага адзінства, сям'і.

— Больш за ўсё з падрыхтаваных намі выданняў мне падабаецца кніга Мітрапаліта Філарэта (Вахрамеева) «Навучанне любові», — гаворыць Аляксандр. — У яе ўвайшлі выбраныя працы Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі за 2009 — 2013 гады. Любоў як першая запаведзь і Бог як Любоў — асноўныя тэмы кнігі.

Гэтая кніга, дарэчы, была адзначана дыпломам Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2014» у тэматычнай намінацыі «Духоўнасць».

### ДЗЕЛЯ ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ

Вялікая ўвага апошнім часам надаецца падрыхтоўцы выданняў для дзяцей. Гэта і не дзіўна. Дзеці — наша будучыня, і ад таго, на якой літаратуры яны выхоўваюцца, залежыць заўтрашні дзень. Некалькі кніг з серыі «Любімым дзецям» былі таксама адзначаны дыпломамі Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». Сёлета ў намінацыі «Разам з кнігай мы расцём» дыплом атрымаў калядны зборнік для дзяцей «Залатая ноч».

Цяпер рыхтуецца адразу некалькі цікавых дзіцячых праектаў. Рэдактар Ангеліна Мендзелева працуе над велікодным зборнікам для дзяцей «Радасць мая, Хрыстос Уваскрос», дзіцячай кнігай пра жыццё Прасвятой Багародзіцы «Нябесная кветка», Азбукай-калыханкай», кнігай з аб'ёмнымі ілюстрацыямі «Іона і кіт».

— Асаблівай увагі заслугоўвае праект «Падарунак для маленькага хрысціяніна», — распавядае Ангеліна. — Гэта такая таемная скрыначка, у якую ўваходзяць дзіцячы малітваслоў і статуэтка Анёла. Думаю, гэта самы лепшы падарунак для нованароджанага. Мы даўно хацелі здзейсніць такі праект і, дзякуй Богу, атрымліваецца. Хутка парадуем нашых чытачоў.

Рэдактар Алена Кебец займаецца падрыхтоўкай развіваючых гульняў. У бліжэйшы час у продажы з'явяцца скрынка драўляных канструктараў, кніжкі-расфарбоўкі, карткі і пазлы, па якіх можна вывучаць літары і лічбы. І гэта таксама кнігі, кнігі без тэксту. Але ж дзеці чытаюць вобразамі!

— Пазлы «Вучымся лічыць» дапамогуць малечы пазнаёміцца з лічбамі ў займальнай гульнёвай форме, — расказвае Алена. — А ў скрыначцы з карткамі для малявання вы ўбачыце не толькі герояў вядомых казак, але і знойдзеце мноства захапляльных заданняў, якія дапамогуць развіццю творчых здольнасцей дзіцяці. Карткі вельмі зручныя. На іх можна маляваць, а потым сціраць і зноў маляваць.

Мне здаецца, што тыя, хто трымаў у руках хоць адну кнігу, падрыхтаваную выдавецтвам Свята-Елісавецінскага манастыра, адчуваў цяпло, якое яна нясе. Калі ж вы такога яшчэ не перажылі, то, магчыма, варта пачаць цяпер, у гэтыя светлыя велікодныя дні.

**Зміцер АРЦЮХ**

# Невинное хулиганство, или Восемь порций мудрости

Внимание, разыскиваются маленькие нехочухи, которые, задирая вредный острый нос, категорически отказываются читать книги! Лекарство для них найдено! Восемь детских книжек от горячо любимых классиков русской и зарубежной литературы заменят докторов и пилюли. Что касается взрослых, то и для них произведения Бориса Житкова, Михаила Зощенко, Редьярда Киплинга станут неплохой профилактикой опасной болезни под названием «несправедливая строгость» или «излишняя надоедливость».




Доброе было время, когда дети мечтали стать учёными, космонавтами или спасателями, объедались мороженым за пару копеек и целыми днями пропадали во дворе, а не за компьютерами. Пусть даже набивали синяки на коленках, гоняя мячик или подшучивая над соседской кошкой, но общались, играли не через равнодушный монитор, а на расстоянии вытянутой руки.

Сборник детских рассказов **«Самое главное» Михаила Зощенко**, который вышел в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», кто-то может назвать старомодным, но, поверьте, стоит прочитать хоть одну историю — не оторвёшься! Автор, хороший психолог, заставляет юных читателей задуматься, учит их храбрости, самостоятельности, милосердию и мудрости. Житейские истории, собранные в книге «Самое главное», не утратили своей актуальности, ведь непоседливые мальчишки и девчонки — вечное явление на планете Земля. Причём, ни один научно-технический прогресс не разучит их искренне веселиться и ежеминутно делать маленькие открытия. Читаешь Михаила Зощенко — и поражаешься его тонкому, всегда уместному юмору: «Я не нуждаюсь в пятёрке. Что она одна будет торчать среди моих двоек и троек? Это комично». Радуешься, что любой ребенок, открывший книгу, поймёт всё с полуслова. Ну и конечно, будучи важным и взрослым, прячешься с книгой под подушкой и ждёшь: что же будет с маленькими героями дальше?

Пятилетний Павлик, живущий в Ленинграде с мамой, папой и бабушкой, вдруг обнаруживает пропажу кошки. И что вы думаете? Смелый кроха уходит из дома и отправляется на её поиски. Как тут не волноваться? Задевает душу история про мальчика Федю, который живёт в детдоме, в десять лет не умеет читать и никогда не улыбается. Ответ очевиден: ему просто нужна мама… Михаил Зощенко настаивает: берегите друг друга! Во многих его рассказах чувствуется и лёгкая сатира. Например, на родителей, которые боятся, что дети повзрослеют, во всём их контролируют, напрочь отбивая стремление к самостоятельности.

Вторая же часть книги посвящена приключениям Лёли и Миньки. В какие только ситуации не попадают брат и сестра! Продают галоши хитрому тряпичнику, чтобы купить запрещённое мамой мороженое, заклеивают дневник с единицей по русскому языку, запихивают лягушку в коробку из-под конфет и предлагают прохожим. Интересно, что здесь автор ведёт повествование от первого лица, вспоминает беззаботную пору детства, когда характер только начинает формироваться, а наивные идеалы рушатся в одночасье. Несложно убедиться, что произведения Михаила Зощенко полезны для всех возрастов. Дяди в строгих костюмах и тёти на высоких каблуках на самом деле такие же дети, только не признаются в этом.

**«Рассказы о животных» Бориса Житкова,** вышедшие в издательстве «Русич» при участии ООО «Харвест», — не просто книга, а корабль, который забрасывает читателей на борт и, набирая обороты с каждой страницей, увозит навстречу приключениям.

Сборник начинается со скромной истории про галку-воровку, укравшую бабушкино колечко, а потом неожиданно берёт курс на экзотические страны, повествуя о ручных слонах из Индии, обезьянках, кенгуру и волке, который живёт в квартире. Кстати, дома у Житковых, если верить биографии Бориса Степановича, действительно жил серый хищник, ведь писатель умел дрессировать животных.

Все рассказы напоминают поэзию в прозе — таков уж стиль автора. А ещё он любит погружать своих героев в экстремальные ситуации и обязательно в каждой книге упоминает море. Неудивительно, ведь в три года Боря бесследно исчез, ушёл из дома, чтобы купить пароход за одну копейку, а потом, через много лет, стал заядлым моряком, объездил много стран, дослужившись до помощника капитана. Он всё время что-то придумывал и сам любил, как и его герои, попадать в необычные ситуации, ведь главное, чтобы судно не стояло на месте.

Фантазия талантливого художника и мультипликатора, который берётся писать рассказы для малышей, безгранична. Толпа зверей прячется от дождя под крохотным грибом, гусь расхаживает с павлиньим хвостом, а щенок думает, что лягушки мяукают. Книга **«Загадочные истории» Владимира Сутеева,** которая вышла в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», включает три удивительных рассказа.

Автор воплощает характеры людей в образах животных, остроумно подмечает простые житейские истины. Например, о том, что завидовать, думать только о себе нельзя, необходимо дружить и помогать друг другу. Каждый абзац книжки сопровождают яркие и динамичные иллюстрации. Так что ребёнок может и читать, и смотреть мультики, думая, что он находится не у себя в комнате, а на залитой солнцем лесной поляне, вместе с любимыми героями.




Все дети знают, что если не слушаться родителей, то обязательно попадёшь в какую-нибудь ужасную историю. Тебя заперли и запрещают одному выходить на улицу? Нужно сразу же, не откладывая, обидеться. Желательно, для убедительности, еще и перепортить все вещи в доме: сломать игрушки, упасть с лестницы на пол, перевернуть банку с клеем и с чистой совестью улечься спать. Взрослые придут, утешат и простят. А если нет?

Лягушонок тоже думал, что, убежав из родного пруда на автостраду, станет героем. Но в итоге вернулся озябший, исхудавший, хромой, а мама с папой и виду не подали, что волновались. Всё для того, чтобы упрямый сын запомнил этот урок на всю жизнь.

Книга **«Про непослушных малышей» Сергея Михалкова**, появившаяся в издательстве «АСТ» при участии ООО «Харвест», будет хорошим учителем, предостерегающим детей от необдуманных поступков. Автор рассказывает про вредных зверушек, девочку, которая плохо кушала, и, конечно же, не забывает уделить должное внимание всенародному любимцу — дяде Стёпе.

Говорят, что Сергей Михалков в душе всегда оставался немного ребёнком — и в 20, и в 50 лет. А ещё он любил проверять своих читателей на чувство юмора, бросая им вызов: «А вы способны посмеяться над собой?» Его истории будут интересны в любое время, пусть даже через столетие, на любом континенте, ведь для всех малышей мира самое дорогое — любовь родителей и преданность друзей. Сергея Михалкова многие знают по стихам, но он мастерски владел и другими литературными жанрами, писал рассказы, пьесы, публицистические статьи.

Взрослым, которые будут читать своим маленьким сокровищам его произведения, наверняка захочется самим познакомиться с творчеством писателя, потому что это неисчерпаемый источник мудрости и душевных сил.

«Вот день, когда всё это началось, мне не везло с самого утра», — жалуется Виктор Перестукин, герой книги **Лии Гераскиной «В Стране невыученных уроков»,** вышедшей в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест». Разве можно решать скучную задачу про каких-то там землекопов и погонные метры, когда на улице светит солнышко, пахнет сиренью и весело играют мальчишки?

Конечно же, нет! Лучше отбросить ненавистные учебники в сторону и… А вдруг книжки, потрёпанные нерадивым учеником, оживут и придумают ему наказание? Например, отправят в Страну невыученных уроков. «Прибывший к нам ученик четвёртого класса Виктор Перестукин, — сурово говорил старик, — обнаружил редкое, безобразное невежество. Проявил презрение и нелюбовь к родному языку. Я удаляюсь для вынесения приговора. Заключите Перестукина в квадратные скобки!» Спасение зависело лишь от смекалки и храбрости мальчика, который не раз пожалеет, что не хотел учиться, коллекционируя в школе двойки. Кто бы мог подумать, что запятая, «сгорбленная закорючка со злыми красными глазками», может решить судьбу человека? Виктор Перестукин столкнётся и не с такими чудесами, встретив на своём пути ноги, которые ходят сами, без хозяина, плюс и минус, продающие воду за правильные арифметические ответы, и кенгуру, которая, возомнив себя птицей, поселилась на дереве. Но самое волшебное происходит в конце повести: ленивый, неряшливый, безответственный мальчик превращается в умного и старательного школьника. Рекомендуется всем, кто хочет весело готовить домашние задания и получать только отличные оценки!

Кто не знает Братьев Гримм, немецких сказочников? Якоб и Вильгельм всю жизнь собирали фольклор, путешествуя по стране, записывали чудесные рассказы и передавали их детям, сохраняя при этом обаяние народной мудрости и лёгкий для понимания язык. Книга **«Рапунцель»**, которая вышла в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест», несмотря на название, повествует не только о златовласой девушке, заточённой в башню.

Среди красочных страниц сборника можно встретить весёлых Бременских музыкантов, Спящую Красавицу, смышлёную кухарку Гретель и даже гнома Румпельштильцхена, который из соломы делал золотую пряжу. Трудно поверить, что все эти персонажи рождались чуть ли не два века тому назад, а то и больше, ведь первый том произведений Братьев Гримм вышел в далёком 1812 году. Но истории интересны до сих пор! Как познакомить детей, которые еще не умеют читать, с книгами? Заинтересовать их картинками! В этом плане сборник сказок «Рапунцель», напоминающий феерический цветовой спектакль, подойдёт идеально. Юным, но уже взрослеющим принцессам и рыцарям издание тоже понравится. Ведь в нём, как и во всех хороших произведениях для детей, содержится волшебная формула: взрослая мудрость, юмор, приключения и искренние чувства.

Книга о другом популярном герое, человеческом детёныше, выросшем среди волков, также появилась в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест». **«Рассказы о Маугли» Редьярда Киплинга** раскрывают перед читателями череду опасных, но весёлых приключений юноши и его добрых помощников: медведя Балу, пантеры Багиры, питона Каа.

Животные у писателя нередко получаются умнее людей, а законы таинственных джунглей — справедливее городской суеты. Действие книги, как и многих других произведений автора, происходит на его родине, в Индии, хотя Редьярд родился в английской семье и имя получил в честь британского озера. Работая корреспондентом, он объездил чуть ли не весь мир, путешествуя по США, Китаю, Японии, Африке. Природная наблюдательность позволяет писателю правдоподобно описывать любые, даже самые невероятные, события, создавая увлекательную фабулу и непредсказуемый сюжет.




Завершает череду волшебных книжек развивающее издание **«Мальчик-с-пальчик»**, вышедшее в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест». Здесь, помимо текста сказки, есть интересные задания, тренирующие внимание, речь и память.

Во время чтения ребенок сможет научиться рисовать, справляться с загадками, бродить по лабиринту, складывать мозаику и даже творить героев своими руками! Взрослые, вы ведь тоже мечтали о сказочных человечках?..

**Мария ВОЙТИК**

# «А Евангелле прачытай са страхам і заміраннем…»

Сёлета спаўняецца 440 гадоў друкарні Мамонічаў, якая мела важнае грамадскае і культурнае значэнне ў жыцці Беларусі апошняй чвэрці XVI — першай чвэрці XVII стагоддзя.


*Евангелле напрастольнае. Вільня, 1575 г.*

Друкарня, якую арганізаваў Пётр Мсціславец на сродкі шляхціцаў Зарэцкіх, знаходзілася ў доме заможных віленскіх гараджан, братоў Лукі і Кузьмы Мамонічаў, а пазней — у доме іх спадчынніка Лявона, сына Кузьмы. Манапалізаваўшы выпуск і продаж кніг, друкарня, па сутнасці, выконвала функцыі «дзяржаўнага выдавецтва». Яе прадукцыя разыходзілася не толькі па Вялікім Княстве Літоўскім, але і сярод суседніх народаў.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі захоўваецца 11 экзэмпляраў сямі выданняў друкарні Мамонічаў.

У 1575 г. выйшла ў свет першая кніга — *Евангелле напрастольнае*, напісаная на царкоўнаславянскай мове. У пасляслоўі да яе П. Мсціславец пісаў, што сумняваўся ў сваіх сілах, «боячся начати» друкаваць "сию святую книгу», але «аще и един талант вверен будет кто, не ленитися подобает, но прилежно делати». Сапраўды, *Евангелле* атрымалася арыгінальным і прыгожым, стала ўзорам для наступных выданняў. У 1576 г. выйшаў так званы *Псалтыр з чырвонымі кропкамі*. Абодва гэтыя выданні П. Мсціслаўца надрукаваны буйным прыгожым шрыфтам на якаснай паперы з шырокімі палямі. Застаўкі падобныя да заставак Івана Фёдарава, толькі выкананыя чорным штрыхом на белым фоне, што нагадвае беларускі народны арнамент. З элементамі беларускіх мініяцюр, хаця і ў заходнееўрапейскім стылі, выкананы і гравюры-ілюстрацыі з выявамі Мацвея, Марка, Лукі, Іаана. Гэта першыя вобразы евангелістаў у беларускіх стардруках.

Цікавым падаецца асобнік *Псалтыра* 1576 г., які захоўваецца ў фондзе ЦНБ НАН Беларусі. Раней кніга знаходзілася ў бібліятэцы Маскоўскай духоўнай акадэміі, а да гэтага — ў Маскоўскай сінадальнай бібліятэцы, пра што сведчаць штамп і ярлык на асобніку. Дарэчы, экзэмпляр не захаваўся цалкам. Да нас ён дайшоў у такім выглядзе: пачатак і канец рукапісныя, а ў сярэдзіне кнігі — фрагменты арыгінальнага тэксту, наклееныя на паперу больш позняга часу. Замест гравюры «Цар Давід», якая не захавалася, прыплецена мініяцюра на той жа сюжэт, намаляваная чорнай тушшу і акварэльнымі фарбамі. Выява на мініяцюры нагадвае вобраз легендарнага аўтара псалмоў з ілюстрацыі Пятра Мсціслаўца, але выканана яна ў спрошчанай форме. Цар Давід тут больш падобны да цара з народных казак.

*Евангелле напрастольнае* 1575 г. прадстаўлена ў кнігазборы акадэмічнай бібліятэкі двума экзэмплярамі. У адным захаваліся ўсе гравюры, у другім страчаная гравюра з выявай Іаана. На апошнім асобніку стаіць штамп: «Собственное собрание старопечатных и рукописных книг Стефана Фёдоровича Севастьянова». Патомныя стараабраднікі Стэфан Севасцьянаў (1872 — 1944) і яго сын Міхаіл (1928 — 2006) жылі ў Растове-на-Доне, былі знаўцамі і калекцыянерамі стардрукаваных і рукапісных кніг. Некаторыя выданні з іх значнага кнігазбору ЦНБ НАН Беларусі набыла ў 1973 — 1992 гг. у Міхаіла Севасцьянава.

Пасля выдання *Евангелля*, *Часаслоўца* і *Псалтыра* Пётр Мсціславец быў вымушаны пакінуць друкарню. Ён застаўся ў гісторыі нацыянальнай культуры як таленавіты майстар, стваральнік самабытнай школы гравюры.

Кузьма і Лука Мамонічы былі спрытнымі прадпрымальнікамі, іх вельмі цікавіў збыт кніг. Дзякуючы сваёй умелай «палітыцы» яны неадназова атрымлівалі каралеўскія прывілеі на права выпускаць рэлігійныя і свецкія выданні, прадаваць іх унутры краіны і бяспошлінна вывозіць за мяжу. Але найбольш значным у дзейнасці Мамонічаў было друкаванне важкіх дзяржаўных дакументаў: *Трыбунала* 1586 г. і *Статута Вялікага Княства Літоўскага* (1-е выданне — 1588 г.).

У кнігазборы ЦНБ НАН Беларусі знаходзіцца польскамоўнае перавыданне *Статута* 1619 г. У ім змешчаны дзве арыгінальныя гравюры: схема генеалагічнага дрэва чалавека і выява, магчыма, Люблінскага сейма (захаваўся толькі фрагмент), дарэчы, гэта адна з першых кніжных гравюр на гістарычную тэму. На асобніку знаходзіцца штамп: «Bibliotheque S. M. Goldstein. St. Peterbourg». Сальвіян Маўрыкіевіч Гальдштэйн з 1888 г. выкладаў у Імператарскім археалагічным інстытуце, быў скарбнікам яўрэйскага гісторыка-этнаграфічнага таварыства, супрацоўнічаў у Яўрэйскай энцыклапедыі і ўсё жыццё збіраў кнігі. У 1926 г. яго кнігазбор набыла Беларуская дзяржаўная бібліятэка (цяпер Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь), пэўна, там *Statut* знаходзіўся да вайны. Як вядома, у час акупацыі Мінска частка кніг з дзяржаўных бібліятэк была вывезена ў Германію, а па заканчэнні вайны некаторыя з іх былі вернуты. Тады, відаць, асобнік трапіў у запаснікі Урадавай бібліятэкі БССР (цяпер Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь), а пазней разам з іншымі кнігамі быў перададзены аддзелу рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі.

З 1582 па 1601 гг. друкарня Мамонічаў ужо не мела такіх выдатных майстроў, як П. Мсціславец, таму якасць выданняў пайшла на спад. Гэты перыяд у калекцыі акадэмічнай бібліятэкі прадстаўлены выданнямі *Евангелля вучыцельнага* 1595 г., *Апостала* (3-е выд.) пасля 1595 г. і *Евангелля напрастольнага* 1600 г.

*Евангелле вучыцельнае* 1595 г. уяўляе сабой перадрук *Заблудаўскага Евангелля* 1569 г., ад якога адрозніваецца толькі тытульным аркушам і прадмовай. Існуе два выданні *Евангелля* 1595 г. (адно з нумарацыяй аркушаў, другое — без), абодва ёсць у кнігазборы бібліятэкі. Як вядома, амаль ва ўсіх экзэмплярах *Евангелля* 1595 г. былі знішчаны аркушы з тытулам і прадмовай, што рабілася для таго, каб выдаць гэтую кнігу за больш ранняе *Заблудаўскае Евангелле* 1569 г. У нашых асобніках першыя аркушы таксама адсутнічаюць.

Разам з *Евангеллем* і *Псалтыром* вялікай папулярнасцю ў хрысціян карыстаўся *Апостал*. Яго ў 1590-я гады Мамонічы выдавалі тры разы. У кнігазборы ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца два экзэмпляры трэцяга выдання. Асобнікі вылучаюцца разнастайнымі арнаментальнымі ўпрыгожваннямі: застаўкі ідуць амаль адна за адной, на асобных аркушах — па дзве плеценыя канцоўкі (гэта апрача ініцыялаў і інш.). На апошнім аркушы кнігі павінен быў змяшчацца тэкст каралеўскага прывілея («*Апостал з прывілеем*»). На жаль, у нашых асобніках прывілей не захаваўся.

У 1600 г. (у ліпені і ў жніўні) Мамонічы ў чарговы раз выдалі *Евангелле напрастольнае*, да якога былі зроблены копіі з гравюр Пятра Мсціслаўца. У калекцыі бібліятэкі знаходзіцца жнівеньскае, так званае *Евангелле з сігнатурамі*. Напрыканцы існавання друкарні, ужо пры Лявону Мамонічу, былі надрукаваны *Трыёдзь каляровая* і *Трыёдзь посная* 1609 г., якія прызначаліся на продаж у Маскву. Два экзэмпляры *Трыёдзі поснай* захоўваюцца ў бібліятэцы ЦНБ НАН Беларусі. Гэта перадрук маскоўскай *Трыёдзі* 1589 г., аднак у ім адсутнічаюць «Жыціе Марыі Егіпецкай» і «Аповесць аб нашэсці персаў на Царград». У адным з экзэмпляраў нейкі «Константин Кирьяков» (відавочна, стараабрадзец) не згадзіўся з такім няпоўным варыянтам і ўласнаручна ўпісаў важкія для яго раздзелы, аздобіўшы тэкст сваімі немудрагелістымі застаўкамі і канцоўкамі.

Да апошняга перыяду дзейнасці друкарні адносіцца і польскамоўнае перавыданне *Статута* 1619 г. З другой паловы 20-х гадоў XVII стагоддзя друкарня пераходзіць да базыльян.

Узгаданыя кнігі дайшлі да нас у пераплётах больш позняга часу, бо нумарацыя і ранейшыя рукапісныя запісы на іх часткова зрэзаны. Каштоўную інфармацыю паведамляюць рукапісныя запісы, пакінутыя на кніжных старонках. Яны захавалі імёны былых уладальнікаў і чытачоў, якія жылі ў XVII — XIX стст. Некаторыя кнігі пераходзілі ад аднаго ўладальніка да другога і падпісваліся некалькі разоў. Самая вялікая колькасць запісаў зроблена на *Апостале*.

Старадрукі перадавалі дзецям у якасці бацькоўскага благаславення: «Отеческое благословение Агапита Бусуркина книгою, книга *Триоть постная* принадлежит Ефиму Бусуркину. 1864». Кнігі ўкладалі ў царкву для адпушчэння грахоў і памінання, такім чынам уладальнікі кніг клапаціліся пра сваю душу: "Слезно вас, братия моя возлюбленная, прошу... помянуть... раба божия Михаила». На іх старонках указвалі даты нараджэння і смерці сваякоў: «Переставилась раба божая Наталья Кондратьевна месеца марта во 2-рыи день 1845 года». Пра кошт выданняў паведамляюць наступныя запісы: «Сея книга стоит 26 руб; Сия книга... куплена за золотых десять...».

Нарэшце, пра вялікую духоўную каштоўнасць кнігі і вялікай значнасці чытання Свяшчэннага пісання сведчыць заключны наказ ва ўкладным запісе канца XVI — пачатку XVII ст.: «А Евангелие сие прочитай со страхом и с трепетом, и с великим бережением, як пред самым Христом и Богом предстоиш».

17 красавіка ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрылася выстаўка «Надрукавана ў доме Мамонічаў», дзе дэманструюцца кнігі з фондаў дзвюх буйнейшых бібліятэк дзяржавы — НББ і ЦНБ НАН Беларусі. Экзэмпляры акадэмічнай бібліятэкі можна пабачыць і на віртуальнай выстаўцы «К 440-летию типографии Мамоничей», прадстаўленай на сайце бібліятэкі: ***libarts.basnet.by***.

**Алена ЦІТАВЕЦ**

# Каліноўскаму прысвячаецца

Адна з найбуйнейшых падзей беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі за апошняе дзесяцігоддзе адбылася ў Лондане. Навукоўцаў з Беларусі, Літвы, Польшчы і Вялікабрытаніі аб'ядналі 150-я ўгодкі паўстання 1863 г.

Мэта навуковага форуму «Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі» — прыцягненне ўвагі, папулярызацыя асобы Кастуся Каліноўскага ў Брытаніі на аснове аналізу яго ролі ў гісторыі Беларусі. Дэвізам канферэнцыі стала цытата Джона Маклеада: «Гісторыя — справа занадта сур'ёзная, каб пакінуць яе толькі прафесійным гісторыкам». І не дарма, бо кіраўнік паўстання аказаўся ў цэнтры ўвагі гісторыкаў, філосафаў-багасловаў, літаратуразнаўцаў, этнолагаў і палітолагаў, гісторыкаў мастацтва.

Адкрыццё канферэнцыі пачалося з набажэнства па грэка-каталіцкім абрадзе, якое правёў айцец Аляксандр Надсан і па заканчэнні якога ім былі выказаны словы пажаданні плённай працы ўсім удзельнікам канферэнцыі. Пасля эстафету пераняліарганізатары, старшыні Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і Англа-беларускага таварыства Мікола Пачкаеў і Джым Бінглі. Навукоўцы з Беларусі прывезлі шэраг падарункаў у Бібліятэку імя Францыска Скарыны ў Лондане. Сярод іх — новае выданне «Гародня X — XX стст.», а таксама першая настольная беларускамоўная гульня «Паўстанцы».

Пасля ўрачыстага адкрыцця айцец Аляксандр Надсан запрасіў усіх наведаць знакамітую Бібліятэку імя Францыска Скарыны, у якой сабраны шматлікія стардрукі, рукапісы беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, рэдкія манаграфіі і навуковыя працы. Побач з рарытэтнымі выданнямі на паліцах размяшчаюцца і новыя кнігі, выпушчаныя на тэрыторыі Беларусі. Айцец Аляксандр адзначыў, што ў нашай краіне даволі добра арганізаваная кнігавыдавецкая справа, і перад тым як кніга зойме сваё пачэснае месца ў бібліятэцы, яна праходзіць строгі адбор загадчыка, што ацэньвае важнасць і каштоўнасць кожнага выдання. Таму можна з упэўненасцю казаць пра высокую якасць кнігазбору бібліятэкі. Сцены ўнутры будынка ўпрыгожваюць змешчаныя ў рамкі старыя карты Вялікага Княства Літоўскага, а паміж стэлажамі і шафамі — музейныя вітрыны, сціплых памераў, але вялікай каштоўнасці. Там прадстаўлены манеты часоў ВКЛ, прадметы штодзённага ўжытку, маркі. Ёсць нават два слуцкія паясы і арнат, сшыты са слуцкага пояса, прыклады народнага ткацтва, а ў шафе вісіць адзенне Ларысы Геніюш, якое яна насіла падчас высылкі ў Сібір.

Даклады, прадстаўленыя на канферэнцыі, асвятлялі шырокае праблемнае кола пытанняў, звязаных з адлюстраваннем і ўспрыманнем К. Каліноўскага і паўстання 1863 года ў сучасных гістарычных даследаваннях, літаратурных творах, гістарычнай памяці і культуры ў цэлым. Ні адзін даклад не абышоўся без пытанняў. Аўдыторыя актыўна ўдзельнічала ў абмеркаванні і ўдакладненні прадстаўленага матэрыялу. Дарэчы, сярод прысутных на форуме былі не толькі самі ўдзельнікі, але і асобы, прафесійна не звязаныя з гісторыяй: юрысты, праваназнаўцы, журналісты, архітэктары. Па завяршэнні канферэнцыі слухачы прызналіся, што за гэты час даведаліся шмат новага і цікавага пра К. Каліноўскага і яго ролю ў гісторыі Беларусі.

Адным з яркіх момантаў форуму можна назваць падрыхтаваную Язэпам і Камілай Янушкевічамі выстаўку фотаздымкаў паўстанцаў, членаў сям'і і сяброў інсургентаў. Тут можна было пабачыць як хрэстаматыйныя фотаздымкі, напрыклад, партрэт К. Каліноўскага ў чорным гальштуку, зроблены невядомым аўтарам (на выстаўцы была прадстаўлена копія з яго арыгінала), так і зусім не вядомыя выявы, што адкрылі новыя постаці паўстання і даюць падставу для вывучэння побыту сярэдзіны XIX ст.

**Анастасія ВЕСЯЛУХА**

# Меламаны ў прадчуванні

## ЗАЛАТЫ ТЭНАР ГРУЗІІ

Канцэрт народнага артыста Грузіі Тэймураза Гугушвілі адбыўся ўчора ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. Уладальнік самага прыгожага і рамантычнага мужчынскага голасу стаў безумоўным фаварытам беларускай публікі.

— Я выступаў у многіх краінах, але мала магу назваць нацыянальных тэатраў з публікай, якая настолькі шчодра дорыць свае эмоцыі і так душэўна прымае, — адзначае артыст. — Беларускія гледачы выдатна разумеюць, хто чаго варты, таму я вельмі рады магчымасці спяваць перад імі.

Знаёмства айчыннай публікі з артыстам, які выступаў на лепшых сусветных сцэнах, адбылося яшчэ ў 2012 годзе на Мінскім міжнародным Калядным оперным форуме, дзе Тэймураз Гугушвілі бліскуча выканаў арыю Каварадосі з першай дзеі оперы «Тоска». У снежні 2013-га зала Вялікага тэатра стоячы вітала выканаўца, які ўразіў прыгажосцю і сілай голасу ў арыі Міндзі з аднайменнай оперы Атара Тактакішвілі.

У скарбонцы ўзнагарод і званняў «залатога тэнара Грузіі» — Дзяржаўная прэмія Грузіі і ордэн Гонару, шматлікія прафесійныя прызы, а таксама найкаштоўнейшы для любога спевака досвед — стажыроўка ў знакамітым міланскім тэатры Ла Скала. Артыст і педагог, ён належыць да плеяды майстроў, якія значна ўзбагацілі нацыянальную вакальную школу. З 1978 года па сённяшні дзень Тэймураз Гугушвілі — саліст Тбіліскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя З. Паліяшвілі. За час працы ў тэатры знакаміты артыст выканаў практычна ўсе тэнаравыя партыі класічнага опернага рэпертуару. Гастрольная геаграфія спевака такая ж шырокая і вялікая, як і яго рэпертуар. Тэймураз Гугушвілі спяваў у ЗША, Англіі, Шатландыі, Іспаніі, Францыі, Германіі, Італіі, Японіі і інш.


Народны артыст Грузіі Тэймураз Гугушвілі.

Выступаў на оперных сцэнах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Казані, Кіева, Баку, Кішынёва.

## АЛМАЗНАЕ САПРАНА УКРАІНЫ

22 красавіка ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі партыю Тоскі ў аднайменнай оперы Джакама Пучыні выканае народная артыстка Украіны, прыма кіеўскай оперы Таццяна Анісімава.

Выпускніца Адэскай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. Нежданавай у 1992 годзе была запрошана ў трупу Адэскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета, а ў 2001 годзе выканала партыю Флорыі Тоскі на сцэне Нацыянальнай оперы Украіны. Пасля паспяховага дэбюту спявачцы было прапанавана месца салісткі ў трупе тэатра. Таццяна Анісімава выконвае практычна ўвесь драматычны рэпертуар: партыі Таццяны і Іааны ў операх «Яўгеній Анегін» і «Арлеанская дзева» П. Чайкоўскага, Земфіры ў «Алека» С. Рахманінава, Эльвіры і Лэдзі Макбет у операх «Макбет» і «Эрнані» Дж. Вердзі, Лізы ў «Пікавай даме» П. Чайкоўскага і інш. Рэпертуар выканаўцы ўключае сапранавыя партыі ў «Stabat Mater» А. Вівальдзі і «Рэквіеме» Дж. Вердзі.

Таццяна Анісімава актыўна гастраліруе. Шыкоўны голас гэтай выканаўцы гучыць на оперных пляцоўках блізкага і далёкага замежжа: у Лас-Пальмасе, Жэневе, Любляне, Бейруце, у Вялікіх тэатрах Расіі, Германіі, Іспаніі і інш.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ МАЙСТРУ

Юбілейны вечар заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь, канцэртмайстра оперы Ларысы Талкачовай пройдзе 25 красавіка ў камернай зале імя Л. Александроўскай Вялікага тэатра Беларусі.

Лаўрэат і дыпламант усесаюзных і міжнародных конкурсаў, дацэнт кафедры канцэртмайстарскага майстэрства Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, патомны музыкант, Ларыса Талкачова працуе ў Вялікім больш як паўстагоддзя, прыйшоўшы ў калектыў па слядах бацькі — легендарнага піяніста Сямёна Талкачова. Гэтая творчая дынастыя канцэртмайстраў на многія гады вызначыла высокі ўзровень музычнай культуры спектакляў Беларускай оперы.

Першым спектаклем Ларысы Талкачовай у Вялікім тэатры стала опера «Заручыны ў манастыры» С. Пракоф'ева. Сярод іншых значных работ у рэпертуары канцэртмайстра — «Багема» і «Тоска» Дж. Пучыні, «Вяселле Фігаро», «Дон Жуан», «Чароўная флейта» В. Моцарта, «Севільскі цырульнік» Дж. Расіні, «Казкі Гофмана» Ж. Офенбаха, «Лаэнгрын» Р. Вагнера, «Кавалер руж» І. Штрауса, «Пікавая дама» П. Чайкоўскага, «Зорка Венера» Ю. Семянякі, «Джардана Бруна» С. Картэса, створаныя ў супрацоўніцтве са славутымі беларускімі дырыжорамі Таццянай Каламійцавай, Уладзімірам Машэнскім, Яраславам Вашчаком, Генадзем Праватаравым.

З канцэртнымі праграмамі рускай, беларускай і заходнееўрапейскай музыкі Ларыса Талкачова выступала з выдатнымі опернымі спевакамі, прадстаўнікамі некалькіх пакаленняў нацыянальнай вакальнай школы: Святланай Данілюк, Віктарам Чарнабаевым, Яраславам Пятровым, Людмілай Колас, Марыяй Гулегінай, Аркадзем Саўчанкам, Людмілай Златавай, Віктарам Скаробагатавым і іншымі.

Ларыса Талкачова выхавала мноства маладых спевакоў, якія разам з ёй у вакальным класе прайшлі шлях ад выканання невялікіх роляў да вядучых партый у оперных спектаклях. А з яе кансерваторскага класа выйшлі многія цяперашнія канцэртмайстры Вялікага тэатра: Святлана Колас-Іванова, Ларыса Церахава, Андрэй Усачоў, Юлія Шчарбакова. Менавіта яны выканаюць партыю фартэпіяна на юбілейным вечары свайго педагога. У канцэртнай праграме прагучаць арыі і дуэты з опер М. Мусаргскага, П. Чайкоўскага, Г. Даніцэці, Ж. Офенбаха, Дж. Вердзі ў выкананні салістаў тэатра — заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Анастасіі Масквіной, лаўрэатаў і дыпламантаў міжнародных конкурсаў Наталлі Акінінай, Марыны Аксенцавай, Таццяны Гаўрылавай, Васіля Мінгалёва, Ільі Сільчукова.

**Таццяна ШЫМУК**

# Калі зусім не смешна

Помніце лічылку?

*Раз, два, тры, чатыры, пяць,*
*Выйшаў зайка пагуляць.*
*Паляўнічы выбягае,*
*Раптам у зайца страляе.*
*Піф, паф, аяёй!*
*Памірае зайка мой.*

Відавочна, вы прачыталі лічылку весела і бесклапотна, як ёй і належыць.

А цяпер прачытайце яе яшчэ раз, але так, быццам размова ідзе пра забойства дарагой вам істоты, — самым трагічным голасам, на які толькі здольны, голасам, поўным адчаю і злосці.

Цяпер вы маеце ўяўленне пра мальераўскага Дона Жуана і Дона Жуана ў разуменні Анатоля Праўдзіна.

Раней — да пастаноўкі «Дона Жуана» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы — я была ўпэўненая: калі названы тэатр ставіць класіку, сваю ці чужую (зрэшты, ці справядліва такое азначэнне для класікі?), спектакль будзе строга ўпісаны ў яе рамкі. Ніякіх падарожжаў у часе, касцюмы — адпаведныя, праўда, магчымы некаторыя фантазіі ў дэкарацыях. І перад «Донам Жуанам» настрой меўся адпаведны: паглядзець, пасмяяцца, парадавацца за Мальера, якога люблю, і за Андрэя Хадановіча, які здзейсніў пераклад. Таксама — за Паўла Харланчука, якому дасталася такая яскравая, такая вясёлая роля. На тое ж настройваў караценькі ролік, у якім А. Хадановіч зачытваў урывак з п'есы: бадзёра, гарэзліва, з усмешкай.

І ўсё перакулілася з ног на галаву.

І калі быў смех, дык толькі горкі.

Адзіны светлы момант у спектаклі Праўдзіна — высвятленне адносін паміж сялянамі П'еро і Шарлотай. Ды і тое — «між слоў і рухаў» выразна чыталася пародыя на не самыя інтэлігентныя народныя колы. Натуральна, Мальер і сам высмейваў суайчыннікаў-французаў, ды ўсё ж — не так. Ён пасмейваўся, хапаючыся за жывот, а Праўдзін хапаецца за галаву.

Зрэшты, Мальер мог бы быць задаволены. Усё жыццё ён марыў стварыць рэч надзвычай трагічную, пісаў грувасткія п'есы з ухілам у антычнасць, сам намагаўся граць на разрыў аорты, але… І вось, праз некалькі стагоддзяў, пецярбуржац Праўдзін бярэ яго вясёлую п'есу і робіць з яе акурат тое, пра што марыў драматург, — беспрасветную трагедыю. А спатрэбілася, аказваецца, дробязь — усяго толькі здзьмуць тонкі слой дабрадушнай весялосці, прамовіць тыя ж маналогі, агучыць тыя ж думкі іншым голасам — трагічным, поўным адчаю і злосці.

Напачатку гэта бянтэжыць і ўспрымаецца як недарэчнасць ці адмысловая манера ігры акцёраў Купалаўскага. Узнікае натуральнае раздражненне: няўжо нельга не абцяжарваць цудоўную мальераўскую рэч гэтай манерай? Але з часам ты ўсведамляеш памылку — сваю, не акцёраў.

І ўсё ж заставалася яшчэ адно пытанне: навошта Купалаўскі паставіў «Дона Жуана»? Дзеля папаўнення «класічнага спіса»? Ці (у што ніяк не верылася!) каб сказаць гледачу: каханне святое, не ганьце яго, не здраджвайце, будзьце добрымі, і ўвогуле — калі што, боженька пакарае?

Адказ прыйшоў з маналогам Дона Жуана пра крывадушша як найлепшы стыль жыцця, як звыклую з'яву, як гнойную рану чалавецтва. І тут Павел Харланчук здзіўляе, агаломшвае і ўздымаецца на парадак ступеняў як акцёр. Пасля такога цяжка не пашкадаваць, што ён растрачваў час і талент на серыялы.

Пакуль слухаеш маналог, здаецца, што толькі дзеля яго Праўдзін і ставіў спектакль, пад яго падганяў стылістыку ўсёй дзеі, па ім настройваў голас кожнай скрыпкі. Толькі дзякуючы яму «Дон Жуан» пакідае па сабе незабыўнае ўражанне. Зрэшты, да шэрагу такіх «узрушэнняў» трэба аднесці Статую камандора: вобраз, у многім дзякуючы спецыфічнаму гукавому суправаджэнню, атрымаўся сапраўды жудасны.

Галоўны ж герой застаецца Донам Жуанам толькі намінальна. Прыгадайце: у Мальера ён распуснічае сабе ў радасць, ён шчаслівы і бесклапотны. Праўдзін выводзіць на сцэну абсалютна іншага Дона Жуана: змрочнага, азлобленага, які грашыць не дзеля задавальнення, але насуперак небу, і шчаслівы не таму, што атрымаў жаданае, але таму, што калечыць чужыя лёсы. У Мальера Дон Жуан застаецца сімпатычным, нягледзячы на ўчынкі; у Праўдзіна Дон Жуан ад самага пачатку падкрэслена адмоўны герой, нават больш — ён не весяліць гледача, а прыгнятае яго. Беларускі Дон Жуан атрымліваецца пякельнай сумессю Пячорына, Макбета і Гамлета.

Уражанне ад такой трактоўкі незабыўнае, так — але і цяжкое.

Пры гэтым не магу абмінуць некаторыя сумніўныя моманты. Напрыклад, «колеравыя маркеры». Дон Жуан і яго дэманічная світа апрануты ў чорныя з малінавым касцюмы, а ўсе героі «па той бок» — прывід адплаты, бацька Дона Жуана, Статуя камандора, нават крэдытор — у белым. Гэта адразу настройвае гледача адпаведным чынам. Ці варта так рабіць? Чаму б не даць гледачу магчымасць разабрацца ў сутнасці герояў самому? Вядома, такія гульні з колерам выглядаюць на сцэне прыгожа, ствараюць кантраст, а ўсё ж... Апрача таго, на гэтым фоне губляецца Сганарэль, чый касцюм быццам бы ўзяты з іншай оперы (сам Сганарэль проста цудоўны, паклон Віктару Манаеву). Непераканаўча выглядае пакінутая жонка Дона Жуана, Эльвіра: ствараецца вобраз істэрычкі, але не глыбока абражанай жанчыны. І зусім ужо недарэчная «гульня мышцамі» на пацеху гледачу. Гэта выглядае, выбачайце, нізка — у параўнанні з узроўнем спектакля ў цэлым. Але ўсякая іншая «аголенасць» апраўданая: яна падкрэслівае звярыны пачатак Дона Жуана, яго «маральную аголенасць», то бок, адкіданне ўсялякіх фігавых лісточкаў, за якія той лічыць сацыяльныя нормы. На гэта ж — выкрыццё жывёльнай агрэсіі і не толькі — працуе гнуткая змяіная пластыка (ніколі не падумала б, што Харланчук так умее!).

Да ўдалых момантаў, безумоўна, аднясём «балет раз'юшанага звера» (праца П. Харланчука з балетным станком), цытату з Брэйгеля («Прытча пра сляпых»), сцэну на могілках (Дон Жуан запрашае Камандора на вячэру). Цікава, што амаль усе дзеі адбываюцца на фоне неба — зорнага ці чыстага блакітнага, — што лішні раз нагадвае: яно ўсё бачыць.

Пасля спектакля па звычцы прыслухоўваюся да гледачоў. Заўжды ёсць такія, што, толькі пераступіўшы парог залы, забываюць пра спектакль і заводзяць размову на самыя зямныя тэмы. Але ёсць і чуйны глядач. Дзве жанчыны каля люстэрка доўга маўчалі, пакуль адна не сказала другой: «Ведаеш, такі спектакль, што няма чаго сказаць… То бок, ёсць што, але і абмяркоўваць не хочацца, так гэта сур'ёзна».

**P. S.** *У сцэне бойкі паміж П'еро і Донам Жуанам першы апусціў адну рэпліку, надзвычай сакавітую, якую ў згаданым вышэй роліку Хадановіч агучваў. Цікава: гэтак вырашыў рэжысёр, сам «тэатр» ці акцёр пасаромеўся?*

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Валерый ГЕРАСІМАЎ, загадчык аддзела стaрадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, дзеліцца досведам стварэння музея кніжніцы як адлюстравання яе гісторыі:**

— Нядаўна ў нашай краіне з'явіўся яшчэ адзін музей, у якім сабрана гісторыя Прэзідэнцкай бібліятэкі. Ідэя яго стварэння нарадзілася на пачатку 1990-х гадоў. Яна доўгі час «абкатвалася», узгаднялася і «прабівалася» групай супрацоўнікаў, што паспрыяла захаванню не толькі працоўных традыцый, але і самога калектыву.

У 2008 г. да чарговага юбілею бібліятэкі была створана рабочая група. Мы наведалі шматлікія ведамасныя музеі, каб вывучыць іх досвед. У выніку з'явілася першая экспазіцыя. У 2013 г. яе абнавілі і зрабілі больш актуальнай, стварылі архіў-запаснік будучага музея.

Першае пытанне, якое звычайна паўстае: для чаго ён патрэбны? Прэзідэнцкая бібліятэка — адна з трох самых буйных у краіне, галоўны бібліятэчна-інфармацыйны цэнтр для ўсіх галін улады. Адначасова кніжніца адкрыта для масавага чытача. Установа мае ўнікальную гісторыю. Бо па маштабах дзейнасці ў сваёй даволі спецыфічнай сферы яна не мела аналагаў у СССР. Таму, з аднаго боку, мы імкнуліся адлюстраваць гістарычныя вехі, з другога — паказаць, якія намаганні прыкладаў калектыў, каб бібліятэка ўвесь час паспяхова працавала.

У аснове экспазіцыі — найбольш значныя перыяды яе дзейнасці. Адзін са стэндаў прысвечаны гістарычным караням. На ім паказаны папяровыя бібліятэкі: кніжніцы Полацкага, Тураўскага і Смаленскага княстваў, вялікакняжацкія ды каралеўскія бібліятэкі ўладароў Вялікага Княства Літоўскага, бібліятэкі органаў улады Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі, БНР, ССРБ-БССР і Рэспублікі Беларусь. Яны прадстаўлены ксеракопіямі вокладак найбольш адметных выданняў, вілдарысамі асветнікаў, пячаткамі і статутамі ўстаноў.

Першы перыяд гісторыі бібліятэкі ахоплівае 1933 — 1941 гады, другі — 1941 — 1945, калі кнігі разышліся па ўсім свеце. Ёсць у нашай гісторыі і трагічныя старонкі, калі ў акупіраваным Мінску сталі ахвярамі фашысцкага тэрору бібліятэкары Э. Талкачова, С. Гурвіч, М. Луцкая. Захоўваецца таксама памяць пра ўдзельнікаў вайны і працаўнікоў тылу — І. Палера, А. Бясонаву, Л. Віленчык, А. Філіпава, Е. Яўланаву.

З 1944 па 1959 год ішло аднаўленне фондаў і засваенне новых форм ды відаў бібліятэчнага абслугоўвання. У наступны перыяд установа выконвала функцыі рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэкі. З 1977 года кожны дэпутат і старшыня сельсавета атрымаў доступ да нашых паслуг. Этап, якім па праве ганарымся, бо ні адна з саюзных рэспублік такога не мела. Сённяшні перыяд дзейнасці прадстаўлены ў экспазіцыі і кампакт-дыскамі, якія маюць тэматычны банк дадзеных прававой інфармацыі «Помнікі гісторыі права Беларусі». Дарэчы, у гэтай справе мы зноў першыя. Арыгінальная аўтарская канцэпцыя і аб'ектыўныя падыходы да адбору дакументаў дазволілі нам з тэхнічнай дапамогай Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі і навуковым кансультаваннем з боку вядучых гісторыкаў права краіны стварыць настолькі поўны электронны банк крыніц канстытуцыйнага права, якога дагэтуль няма ў краінах-суседках.

А яшчэ адзін кампанент музея — дырэктарскія стэнды. Інакш кажучы, роля бібліятэчнай асобы ў яе гісторыі. Сямён Ашаровіч, Павел Архіпец, Эдуард Цыганкоў, Сафія Юдо. Усе яны зрабілі пэўны ўнёсак у развіццё ўстановы. На міні-картах пазначаны населеныя пункты, дзе яны нарадзіліся. Гэта маршруты вандровак калектыву, запланаваныя на бліжэйшы час прафсаюзным камітэтам і аддзелам маркетынгу. Такое вось спалучэнне гісторыі і сучаснасці.

*Музейны ўнікат*

# Шэдэўры з-пад іголкі

**Да 25 мая будзе доўжыцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь выстаўка «Жывапіс іголкай». У экспазіцыі ўпершыню дэманструецца 19 твораў старажытнарускага вонкавага шыцця са збору Разанскага гісторыка-архітэктурнага музея-запаведніка.**

Унікальныя экспанаты былі створаны ў XV — XVII стагоддзях. Амаль усе шэдэўры да 1912-га знаходзіліся ў Разанскім епархіяльным старажытным сховішчы, калекцыі якога ў 1923 годзе перадалі ў Разанскі губернскі музей.

— Гэтыя вырабы яшчэ мала вывучаны, і шырокай публіцы іх прадставілі толькі ў 1991 годзе, — зазначыла куратар выстаўкі, загадчык выставачнага аддзела Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Марына Мальгіна. — Найбольш старажытным



*Палíца (элемент адзення свяшчэннаслужыцеля) «Маці Божая Знаменне». Сярэдзіна XVI ст.*

помнікам вонкаваму шыццю, звязаным з Разанню, з'яўляецца ваздух (так называецца ў хрысціянскім богаслужэнні вялікі плат, які выкарыстоўваецца для пакрыцця Святых Дароў) «Еўхарыстыя», створаны ў 1485 годзе, са сцэнамі жыцця Іаакіма, Ганны і Марыі на аблямоўцы. Да нашых дзён дайшло толькі два рускія ваздухі «Еўхарыстыі»: суздальскі 1410 — 1413 гадоў і разанскі 1485 года.

З мастацтвам вонкавага шыцця Старажытная Русь пазнаёмілася, далучыўшыся да бліскучай візантыйскай культуры пасля прыняцця хрысціянства напрыканцы X стагоддзя. Нараўне з насценным роспісам, іканапісам і творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва вышытыя тканіны з'яўляліся адным з важных элементаў убрання інтэр'ера старажытнарускага храма. Падобным шыццём упрыгожвалі святочныя царкоўныя ўборы, харугвы (царкоўныя сцягі), напрастольнае адзенне, завесы царскай брамы і г. д. Існавалі таксама шытыя абразы і паходныя іканастасы. Ва ўрачыстым дзействе падчас велікоднай службы выкарыстоўвалі плашчаніцы з шытымі кампазіцыямі «Пакладанне ў дамавіну».

Супрацоўнікі музея ўпэўнены: знаёмства са зборам старажытнарускага шыцця дасць магчымасць пашырыць уяўленне пра адзін з самых цікавых відаў сярэдневяковага мастацтва.

**Міра ІЎКОВІЧ**



*Ваздух (плашчаніца) «Еўхарыстыя» з жыццём Іаакіма, Ганны і Маці Божай. 1485 г.*

*Традыцыі*

# Карагод ад прадзедаў

**Старадаўні вясновы абрад «Стрэлка» (на мясцовай гаворцы гучыць «стрылка»), які праводзіцца ў першы дзень Вялікадня, захаваўся сёння толькі ў вёсцы Бездзеж Драгічынскага раёна. Каранямі ён сягае ў глыбокую старажытнасць. Дарэчы, нічога падобнага нідзе больш на Брэстчыне не адзначалася.**



*Падчас праведзення вясновага абраду «Стрэлка».*

— Традыцыі продкаў мы імкнёмся захоўваць, — распавяла дырэктар музея народнай творчасці «Бездзежскі фартушок» Марыя Астаповіч. — Ваджэнне «стрылкі» адбываецца штогод, на першы дзень Вялікадня, пасля вячэрняй службы ў царкве, якая доўжыцца 40 — 60 хвілін і называецца «Нешпор». Дзеянне адбываецца на вясковай плошчы (па-мясцоваму — «місто») перад храмам і распачынаецца пасля таго, як бацюшка акропіць усіх святой вадой і дасць дазвол — благаславенне.

Удзельнічаюць у карагодзе дзяўчаты, жанчыны сярэдняга ды старэйшага ўзросту. І абавязкова — дзеці. Трохвугольнікам становяцца «зырняткі» з двух-трох-чатырох малых дзетак (калі карагоднікаў небагата, ставяць па адным «зырнятку»). Дзеці трымаюцца на адным месцы, а астатнія ўдзельнікі карагода, злучыўшы («зацэпам») унізе рукі, рухаюцца за вядучым (завадатарам) вакол купак дзяцей, утвараючы своеасаблівыя дугі — падковы ці колы. Усе карагодцы спяваюць традыцыйную песню. Абрад прысвячаецца будучаму ўраджаю. І толькі пасля карагода з усходу на захад пачынаюцца веснова-палявыя працы і гулянні пасля Вялікага посту.

Па даўняй традыцыі жыхаркі вёскі ў гэты дзень апранаюць народныя касцюмы, галоўнае ўпрыгожванне якіх — знакаміты бездзежскі фартушок. Падчас свята выступаюць фальклорныя калектывы, самадзейныя артысты частуюць усіх фарбаванымі яйкамі і смачнай выпечкай. Працуе выстаўка-продаж велікодных сувеніраў, створаных тутэйшымі ўмельцамі.

— На пачатку гэтага года праходзіла пасяджэнне Беларускага рэспубліканскага навукова-метадычнага савета па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны, — зазначыла Марыя Астаповіч. — Разглядалася і пытанне аб занясенні карагода «Стрэлка» ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. Што ў выніку і адбылося!

У студзені музею народнай творчасці «Бездзежскі фартушок» споўнілася 15 гадоў. Сёння яго экспазіцыя размяшчаецца ў сямі залах, дзе можна ўбачыць узоры ткацтва і вышыўкі майстрых не толькі з Бездзежа, але і з навакольных вёсак. Першапачаткова тут было 150 старадаўніх прадметаў. А паколькі фартушкі ў ім пераважалі, то музей і набыў адпаведную назву. З часам яго фонд павялічыўся амаль у 10 разоў і пастаянна папаўняецца.

Два гады таму на базе музея з'явіўся сялянскі падворак «Каля Плэса» з хатай, сельскагаспадарчымі пабудовамі, даволі вялікім дваром і трыма сажалкамі. Акрамя звычайных экскурсій супрацоўнікі музея знаёмяць шматлікіх турыстаў з традыцыйнымі народнымі рамёствамі і мясцовай кухняй. Ёсць на падворку і конік, і сапраўдная брычка — можна павандраваць па наваколлі.

Музей заўсёды быў арганізатарам і ўдзельнікам цікавых мерапрыемстваў. Экспанаты «Бездзежскага фартушка» пабывалі на шматлікіх выстаўках і фэстах, у тым ліку міжнародных. Сёння гэта важны турыстычны аб'ект не толькі Драгічыншчыны, але і Брэсцкай вобласці. За паўтара дзесяцігоддзя музей наведала больш як 60 тысяч чалавек. Цікавасць да «Бездзежскага фартушка» не згасае!

**Раіса МАРЧУК**

# Пакутніцкі цыкл

**Дванаццаць абразоў на сюжэты Хрыстовых Пакут захоўваецца ў Саборы Нараджэння Божай Маці ў г. Глыбокае на Віцебшчыне.**

Каштоўнасць і значнасць гэтага комплексу тлумачыцца не толькі тым, што ён належыць да беларускай школы іканапісу і прадстаўляе айчыннае мастацтва XIX ст., але таксама і тым, што гэта ўнікальны паводле свайго сюжэтнага складу цыкл, створаны менавіта на нашых землях ва ўмовах шматканфесіянальнасці. Кірылічныя надпісы, выява шасціканцовага крыжа з перакладзінай на абразе «Укрыжаванне» ды іншыя дэталі, якіх не магло быць на каталіцкім і познеўніяцкім творы, сведчаць пра тое, што 12 глыбоцкіх абразоў пісалася для праваслаўнай царквы. Паказальнай з'яўляецца і своеасаблівая інтэрпрэтацыя персанажаў Біблії.

Узнікненне агульнага цыкла са сцэнамі Хрыстовых Пакут звязана з каталіцкай абрадавасцю. З XVII ст. 14 карцін акрэсленых сюжэтаў, якія размяшчалі па перыметры сцен у напрамку руху сонца, пачынаючы ад алтара, сталі абавязковымі для касцёлаў. А першапачаткова такая традыцыя фарміравалася праз раннехрысціянскіх пілігрымаў, якія ў Ерусаліме праходзілі шлях, якім Хрыстос ішоў з крыжам на Галгофу.

Для касцёлаў былі кананічнымі і абавязковымі наступныя сюжэты: «Хрыстос асуджаны на смерць», «Хрыстос прымае свой Крыж», «Хрыстос першы раз падае пад цяжарам Крыжа», «Хрыстос сустракае сваю Маці» і г. д. У такой паслядоўнасці яны і размяшчаліся на сценах.

У цыкле з Глыбоччыны паказаны іншыя эпізоды апошніх дзён зямнога жыцця Хрыста: «Хрыстос мые ногі Апосталам», «Тайная вячэра», «Маленне аб чашы», «Пацалунак Іуды», «Хрыстос перад Каяфам», «Хрыстос перад Пілатам», «Бічаванне Хрыста», «Каранаванне цярновым вянком», «Нясенне Крыжа», «Укрыжаванне», «Зняцце з Крыжа», «Палажэнне ў Дамавіну». З кананічнымі каталіцкімі супадаюць толькі тры сюжэты: «Укрыжаванне», «Зняцце з Крыжа», «Палажэнне ў Дамавіну». Пра тое, што гэта поўны комплекс абразоў, які і складаўся першапачаткова з 12 твораў, сведчыць тая акалічнасць, што менавіта столькі ж ікон, таксама сюжэтаў і прыблізна таго ж часу напісання існавала і ў іншых храмах Беларусі. Аналагічны Пакутніцкі цыкл захоўваецца цяпер у царкве вёскі Турэц на Навагрудчыне.

Часам у іканастасах беларускіх уніяцкіх храмаў у XVIII ст. змяшчаўся пакутніцкі чын. Такая ж з'ява з XVII ст. пад уплывам заходнееўрапейскага рэлігійнага мастацтва была ўласціва і рускім праваслаўным цэрквам. Аднак глыбоцкі комплекс не з'яўляецца простым пераймannем заходнецкі ўсходнехрысціянскай традыцыі, а сведчыць пра іх сінтэз на нашых землях. Ён, як і ў касцёлах, быў размешчаны на сценах і пілонах храма. Але, як і ў праваслаўных цэрквах, складаўся з 12 абразоў. Пры гэтым яго сюжэты адрозніваюцца і ад каталіцкіх «стацый», і ад пакутніцкага чыну іканастасаў.

Аўтарства, час і месца стварэння абразоў невядомыя, што ў цэлым уласціва тагачаснаму беларускаму мастацтву. Па ўсёй верагоднасці, Пакутніцкі цыкл пісаўся для адной з цэркваў Глыбоччыны ў сярэдзіне XIX ст., а ў сабор Нараджэння Божай Маці патрапіў пазней. Здымкі інтэр'ераў глыбоцкага сабора, зробленыя мясцовым фатографам Леанардам Рачыцкім у 1931 г., сведчаць, што творы ўжо тады размяшчаліся ў храме. Аднак пра тое, што Пакутніцкі цыкл патрапіў сюды з іншай царквы, гавораць даследаванне гістарычных крыніц.

У архіве Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра ёсць рукапісны дакумент канца XIX — пачатку XX ст. — «Церковно-



*Абраз «Укрыжаванне з прадстаячымі», сярэдзіна XIX ст.*

историческое и статистическое описание Глубокской церкви и прихода Литовской епархии». Такія апісанні вяліся ў шматлікіх праваслаўных храмах на нашых землях пачынаючы з 1860-х гг. Яны мелі вызначаную структуру з дзвюх частак. У першай святары па пэўнай схеме занатоўвалі звесткі пра храм і яго гісторыю, прыхаджан, царкоўную маёмасць. Другая частка была своеасаблівым летапісам: штогод рабіліся запісы пра найбольш важныя падзеі ў жыцці храма.

У глыбоцкай царкве рукапіс пачаў весціся, верагодна, у 1888 г., калі настаяцелем стаў Мікалай Нікольскі. Апошнія запісы зроблены ў 1916 г. У тыя часы ў храме яшчэ не было Пакутніцкага цыкла. Відавочна, што ў глыбоцкую царкву абразы патрапілі паміж 1916 і 1931 гг. Мяркуючы па памерах твораў, яны пісаліся для вялікага храма, магчыма, для суседняга, які размяшчаўся ў вёсцы Беразвечча.

Царква ў Беразвеччы знаходзілася пры манастыры, які першапачаткова быў уніяцкім, а ў 1840-я гады (пасля скасавання Уніі) быў пераабсталяваны і пераасвечаны ў праваслаўе. Верагодна, у гэты час і былі напісаны абразы Пакутніцкага цыкла. У 1919 г. храм быў перададзены каталікам, а ў манастырскіх памяшканнях размясціўся польскі Корпус аховы памежжа. Магчыма, тады абразы і перанеслі ў глыбоцкую царкву, бо яны сваімі выявамі і кірылічнымі надпісамі не адпавядалі касцёлу.

Унікальнасць ікон — у своеасаблівай інтэрпрэтацыі біблейскіх сюжэтаў і вобразаў. Тагачасныя мастакі малявалі іўдзеяў і рымлян так, як уяўлялі. Таму на абразах мы бачым мясцовыя тыпажы з беларускімі рысамі. Звяртае на сябе ўвагу і вопратка персанажаў: яна мае значна больш агульнага з мясцовымі кашулямі, чым з адзеннем біблейскіх мясцін.

Майстар, які працаваў над стварэннем комплексу, ведаў правілы пабудовы перспектывы і валодаў асновамі акадэмічнага жывапісу, пра што сведчаць святлоценявая мадэліроўка, передача планавасці і аб'ёму. Гэта таксама дазваляе датаваць творы XIX ст. Бо менавіта тады даволі часта абразы выконваліся не іканапісцамі, а прафесійнымі жывапісцамі. Выдатна прамаляваныя твары, паказ іх у розных ракурсах дазваляюць назваць іх выканаўцу добрым партрэтыстам. Аднак непрапарцыянальныя целы, парушэнне анатоміі ў адлюстраванні персанажаў сведчаць пра тое, што мастак быў не вельмі спрактыкаваным і часцей меў справу з партрэтным жанрам.

Такім чынам, унікальны цыкл выразна ілюструе канфесіянальную сітуацыю на нашых землях, у кантэксце якой адбывалася станаўленне і развіццё адметнай беларускай іканапіснай школы.

**Галіна ФЛІКОП**

# Гісторыі не здрадзіў

**Беларускі пісьменнік, гісторык, журналіст, культуролаг, краязнавец, член Беларускага саюза журналістаў, ганаровы член Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Анатоль Валахановіч гэтымі днямі святкуе 75-гадовы юбілей.**

Яшчэ падчас вучобы ў школе ён захапіўся гісторыяй, асабліва старажытнага свету. Потым з'явілася цікавасць да мінулага сваёй Бацькаўшчыны, што абумовіла яго паступленне на гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

Пасля заканчэння ВНУ настаўнічаў, служыў у Савецкай арміі, працаваў рэдактарам у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», загадчыкам рэдакцыі літаратуры па гісторыі і праве выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР, старшым навуковым супрацоўнікам Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы.

Першыя допісы даслаў яшчэ ў 1953 годзе ў дзяржынскую райгазету «Ленінская праўда». Са студэнцкіх гадоў даследуе праблемы гісторыі, літаратуры, культуры і краязнаўства, пытанні палітычных рэпрэсій (1920 — пачатку 1950-х гадоў), займаецца гісторыяй хрысціянства ў Беларусі, шмат друкуецца. Анатоль Валахановіч — аўтар навуковых і навукова-папулярных кніг: «Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі: Кароткі нарыс жыцця і дзейнасці», «Споведзь у надзеі застацца жывым: Аўтабіяграфія Браніслава Тарашкевіча» (у суаўтарстве з У. Міхнюком), «Графы фон Гутэн-Чапскія на Беларусі», адзін з аўтараў, рэдактараў і складальнікаў кніг «Хто ёсць хто ў Рэспубліцы Беларусь», «Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі. Зборнік дакументаў і матэрыялаў да 85-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча», «Дзяржынск: Гісторыка-эканамічны нарыс» (на беларускай і рускай мовах), «Дзяржыншчына: мінулае і сучаснае», аўтар, рэдактар і укладальнік кнігі «Памяць. Дзяржынскі раён» і г. д. Апошнім часам займаўся кнігай «Узлёты, падзенні і смерць Вільгельма Кубэ», якая толькі што пабачыла свет.

А. Валахановіч падрыхтаваў больш як 950 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў для энцыклапедычных выданняў, навуковых зборнікаў, навуковых канферэнцый, кніг, часопісаў, газет. Сярод іх — публікацыі пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Міколу Ермаловіча, Мікалая Улашчыка, Каруся Каганца, Генадзя Каханоўскага, Уладзіміра Крыловіча, Браніслава Тарашкевіча і многіх іншых. Акрамя таго, Анатоль Іосіфавіч — аўтар тэкстаў і распрацоўшчык экспазіцый амаль дзесяці музеяў на Дзяржыншчыне, а некаторым з іх падарыў са сваёй калекцыі папяровыя грошы і манеты розных эпох і краін Заходняй Еўропы.

Ён актыўна супрацоўнічае з часопісамі «Полымя» і «Нёман», газетай «Літаратура і мастацтва», іншымі айчыннымі перыядычнымі выданнямі. Часты госць у Дзяржынскім гісторыка-краязнаўчым музеі і Цэнтральнай раённай бібліятэцы. Арганізатар навукова-практычных канферэнцый, навуковых чытанняў і прэзентацый, прысвечаных Напалеону Орду, графам фон Гутэн-Чапскім, Міколу Ермаловічу, Алесю Рыбаку, Анатолю Сабалеўскаму, Адольфу Янушкевічу ды іншым выбітным асобам.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Адзін з «Групы пяці»

У 1909 г. нарадзіўся ў Гомелі мастак Леў Аронаў. Сёлета — яго 105-гадовы юбілей. Давайце ж згадаем імя і асобу гэтага чалавека!

Леў Ільіч вучыўся на выяўленча-дэкаратыўным аддзяленні Ленінградскага вучылішча заахвочвання мастацтваў, у 1933 г. стаў членам Маскоўскага аддзялення Саюза мастакоў. Праз год адна з яго работ была прадстаўлена на «Выстаўцы пачынаючых мастакоў». У канцы 1930-х увайшоў у мастацкае аб'яднанне «Група пяці» (разам з Л. Зеніным, А. Ржэзнікавым, М. Дабрасердавым, А. Пяейсхавічам). Восенню 1940 г. Леў Аронаў удзельнічае ў праграмнай выстаўцы «Групы пяці». На працягу наступных пяці гадоў з некаторымі перапынкамі выкладаў у Маскоўскім мастацкім вучылішчы імя 1905 года, паралельна працаваў у «Окнах ТАСС».

З 1958 г. ён актыўна займаецца лінагравюрай. У 1957 — 1964 гг. з'яўляецца членам Мастацкага савета пры Вытворчым мастацкім камбінаце. Шмат супрацоўнічаў з Усерасійскім таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры. Вялікі раздзел творчай спадчыны Аронава можна аднесці да «паэтыкі рускай вёскі». Многія работы жывапісца і графіка прысвечаны асэнсаванню культуры, побыту, гістарычнага ландшафту іншых народаў: калмыкаў, інгушаў, чачэнцаў, чувашоў, башкір, татар…. Можа быць, і там успомняць нашага земляка з нагоды яго юбілею?

Так склалася, што кіраўніцтва Саюза мастакоў не дужа шанавала Льва Ільіча. Ганаровымі званнямі ён абцяжараны не быў. Яно і зразумела. Партрэты правадыроў Аронаў не пісаў, на рэвалюцыйныя сюжэты карціны не ствараў. Адпаведныя і адзнакі. Кшталту: «Аронаў — "злосны эстэт"»! І гэта рабілася ў дачыненні да мастака, які вызначаўся чалавекалюбствам, шчырасцю, эмацыянальнай адкрытасцю! А сам Аронаў лічыў сябе ўсё ж рэалістам, якому, безумоўна, былі цікавыя розныя кірункі мастацтва — ад імпрэсіянізму да футурызму.

Сярод блізкіх Аронаву творцаў і яго старэйшых сяброў быў і знакаміты Уладзімір Фаворскі. Мастацтвазнаўца, кніжны графік, майстар ксілаграфіі, філасоф у мастацтве, ён выклаў свайму маладшаму паплечніку шмат урокаў. І мастацтва, і жыцця. А галоўнае — урокаў сумленнага стаўлення да творчасці.

Творчай манеры Аронава адначасова ўласцівы цяга да рэалізму і імпрэсіянізму, іншых сучасных кірункаў, у тым ліку і футурызму. Цяпер яго работы захоўваюцца ў калекцыях Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, Дзяржаўнага Рускага музея, Гравюрнага кабінета Музея выяўленчага мастацтва імя А. С. Пушкіна, прыватных зборах калекцыянераў жывапісу ў Расіі, Германіі, Францыі. Памёр Леў Аронаў у Маскве ў 1972 г.

**Сяргей ТУРЭЦ**

# Дзеля асветы

Выстаўка пад назваю «Створаныя эпохай Румянцава», прысвечаная 260-годдзю з дня нараджэння дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, адкрылася ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».

Абраўшы аднойчы шлях служэння Айчыне, граф Мікалай Румянцаў, сын фельдмаршала Пятра Румянцава-Задунайскага, заставаўся верным яму ўсё жыццё. Які пост ён ні займаў, заўсёды з веданнем справы і з вялікім імпэтам займаўся асветніцкай. У развіцці навукі бачыў аснову росквіту сваёй Айчыны, таму не шкадаваў ні сіл, ні сродкаў для арганізацыі навуковых экспедыцый і даследаванняў, выдання кніг і збору ўнікальнай бібліятэкі, якую пакінуў нашчадкам.

Справамі, якія здзіўляюць незвычайным размахам, Мікалай Пятровіч набыў вялікую павагу сучаснікаў і ўдзячную памяць нашчадкаў, у тым ліку і гамяльчан. Нядзіўна, што гады дзейнасці графа Румянцава яшчэ пры яго жыцці нават у Еўропе зваліся Румянцаўскай эпохай.

Адлюстраванне перыяду, калі ў грамадстве прачнулася цікавасць да мінулага, нацыянальнай адметнасці і мовы, з'яўляюцца кнігі, аўтары якіх натхніліся ідэямі Румянцава. Тады ўбачылі свет працы Мікалая Карамзіна, Канстанціна Арсеньева, паэзія і драматургія Гаўрыіла Дзяржавіна, Аляксандра Сумарокава, Васіля Жукоўскага, Івана Катлярэўскага...

У экспазіцыі прадстаўлены творы вядомых і забытых аўтараў, якія жылі і працавалі ў другой палове XVIII — першай чвэрці XIX стст., а таксама кнігі замежных пісьменнікаў, выдадзеныя ў той час.

**Раіса МАРЧУК**

# Вытанчана…

У філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах — экспануецца персанальная выстаўка «Ажурная фантазія» майстра разьбы па шкарлупіне яек Аляксандра Рыжэўскага. Экспазіцыю складае больш як 50 работ, створаных за апошнія два гады.

Разьба па яечнай шкарлупіне (*Eggshell carving*), або карвінг, — адна з самых ранніх форм прыкладнога мастацтва. Форма яйка здаўна прыцягвала сваёй таямніцай, нейкім унутраным сэнсам. Многія ранніх цывілізацыі лічылі яйка сімвалам урадлівасці, імкнуліся ўпрыгожваць яго і выкарыстоўвалі для абрадаў, накіраваных на павелічэнне ўраджаю. Мастацтва карвінгу па яечнай шкарлупіне было вельмі развіта ў Кітаі. Там прынята дарыць дэкаратыўнае яйка на вяселлі, дні нараджэння, нараджэнне дзяцей.

Сёння ў свеце налічваецца не больш як два дзясяткі майстроў, якія працуюць з такім далікатным матэрыялам. Мінчанін Аляксандр Рыжэўскі — адзін з тых, хто стварае ўнікальныя творы пры дапамозе рэдкай тэхналогіі — разьбы па пустой шкарлупіне ад яйка. З дапамогай разца майстар пераўтварае шкарлупіну курыных, гусіных, страусавых і нават перапёлчыных яек у ажурныя карункі. Чым танчэйшы выраб, тым ён прыгажэйшы. У гэтым і заключаюцца галоўная складанасць і майстэрства. Прыкладна пятая частка матэрыялу «не дажывае» да заканчэння працэсу.

А далікатнасць твораў пазнаецца не толькі ў працы, але і ў момант дарэння. Адна з самых тонкіх работ — «Саламандры», яйка з выявай прыгожых земнаводных: адлегласць паміж адтулінамі ў шкарлупіне ў некаторых месцах — не больш як паўміліметра!

Загадчыца Музея беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах Вольга Залуцкая паведаміла, што ў межах выстаўкі «Ажурная фантазія» пройдуць майстар-класы па роспісе велікодных яек. Удзельнікі заняткаў даведаюцца пра гісторыю і асаблівасці вырабу пісанак — старажытнага сімвала Вялікадня.



*Аляксандр Рыжэўскі «Саламандра».*

Пісанкі — яйкі, размаляваныя ад рукі сюжэтнымі або арнаментальнымі ўзорамі. На сырым яйку выводзяць узоры гарачым воскам пры дапамозе сталёвага пяра. Зрабіўшы ўзор, яйка мачаюць у халодную фарбу пачынаючы з самай светлай, абціраюць і робяць новы ўзор воскам, а пасля мачаюць у іншую фарбу. Калі ўсе ўзоры выведзеныя, воск з яйка стопліваюць над полымем газавай гарэлкі ці над свечкай. Калі пісанка рыхтуецца для працяглага захоўвання, то змесціва выдзімаецца праз маленькія адтуліны, а затым яйка запаўняецца гарачым воскам.

**Таццяна ШЫМУК**

# Баяну апладзіравалі

**У вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт, галоўнай «дзеючай асобай» у якім стаў... баян. Ідэю правядзення і арганізацыю мерапрыемства ўзяў на сябе вядомы ў Беларусі баяніст, дырыжор, аранжыроўшчык, дырэктар дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 11 імя У. Алоўнікава Анатоль Папоў, а таксама кафедра баяна і акардэона БДАМ на чале з прафесарам М. Булой.**

Арганізатары ўзялі за мэту аднавіць у народзе былую папулярнасць гэтага музычнага інструмента. У канцэрце прагучалі апрацоўкі і аўтарскія творы 1950 — 1960-х гадоў — перыяду росквіту аматарскага і прафесійнага баяннага выканальніцтва: творы І. Паніцкага, Б. Ціханава, А. Суркова, С. Каняева, К. Мяскова, А. Холмінава, Н. Чайкіна і інш.

Начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама Сяргей Хільман, які быў запрошаны на канцэрт, шчыра парадаваўся выступленню юнай выканаўцы-навучэнкі трэцяга класа дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 11 Дашы Несцяровіч.

Выдатна выступіў навучэнец рэспубліканскага музычнага каледжа пры БДАМ Сяргей Кляўцэвіч, у выкананні якога прагучала апрацоўка рускай народнай песні «Палосынька» І. Паніцкага. Бліскуча выканаў «Рускі танец» К. Мяскова студэнт Акадэміі музыкі Раман Арашкевіч. Настаўнік па класе баяна дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 1, лаўрэат міжнародных конкурсаў Вольга Іванюк віртуозна выканала два найскладанейшыя творы: «Канцэртную п'есу» С. Каняева і «Рускую завіруху» А. Шалаева. Ветэраны баяннага выканальніцтва Васіль Глубачэнка і Уладзімір Ткач прадэманстравалі класіку баяннага рэпертуару.

У другім аддзяленні канцэрта ўзяў удзел аркестр рускіх народных інструментаў Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. Глінкі, якім кіруе вядомы інтэрпрэтатар балалаечнага мастацтва, лаўрэат міжнародных конкурсаў Таццяна Іванова.

**Міхаіл СОЛАПАЎ,**
**прафесар БДАМ, заслужаны дзеяч мастацтваў**

# «Касмічны» скульптар

**Спецыяльна да Дня касманаўтыкі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа сумесна з Музеем гісторыі горада Мінска адкрылася выстаўка работ народнага мастака Беларусі Івана Міско «Зорнае неба».**

Творчасць беларускага скульптара добра вядома не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Яго часта называюць «касмічным» скульптарам: тэма космасу — адна з галоўных у творчасці І. Міско. Ён — аўтар цэлай галерэі скульптурных партрэтаў ці не ўсіх касманаўтаў былога Савецкага Саюза, у тым ліку беларусаў Уладзіміра Кавалёнка і Пятра Клімука.




Падчас адкрыцця выстаўкі знакаміты скульптар адзначыў, што цяпер працуе над стварэннем бюста Алега Навіцкага — трэцяга беларускага касманаўта. Творца таксама распавёў, што на сталічнай вуліцы Касманаўтаў з'явіцца алея, дзе кожны прыезджы касманаўт зможа пасадзіць дрэва. Будзе ўсталяваны барэльеф, прысвечаны Пятру Клімуку, Уладзіміру Кавалёнку і Алегу Навіцкаму.

Іван Міско вядомы перш за ўсё сваімі манументальнымі работамі: помнікі М. Горкаму ў дзіцячым парку г. Мінска і Маці-патрыётцы ў г. Жодзіна створаныя ў садружнасці са скульптарамі М. Рыжанковым, А. Заспіцкім і архітэктарам А. Трафімчуком.

У экспазіцыю «Зорнае неба» ўпершыню ўключаны зборнік вершаў народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Мініяцюрная кніга была выдадзена ў 1972-м да 90-годдзя з дня нараджэння Песняра. У 1975 годзе Пётр Клімук браў выданне на арбіту. Гэта быў другі палёт першага беларускага касманаўта ў якасці камандзіра касмічнага карабля «Саюз-18» разам з бортінжынерам Віталём Севасцьянавым. Самнасам з Сусветам лётчыкі правялі больш як 60 сутак. У кастрычніку 1975-га Пётр Клімук падарыў «зорны» томік Даніілу Міцкевічу — сыну Якуба Коласа і першаму дырэктару музея.

Івана Міско заўсёды захаплялі людзі, якія імкнуліся да вышынь Сусвету. У галерэі мастака нямала партрэтаў знакамітых дзеячаў беларускай культуры. Скульптарам створана памятная дошка Якубу Коласу ў Вільні, якая будзе размяшчацца на будынку рэдакцыі газеты «Наша ніва», дзе паэт жыў і працаваў вясной 1907 года. Менавіта «касмічнасцю» ў творчасці, як слушна заўважыў на адкрыцці выстаўкі старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, паяднаны Іван Міско з класікам беларускай літаратуры Якубам Коласам. У творчасці народнага паэта «зорная» тэма яскрава выяўлена ў сімволіка-алегарычнай паэме «Сымон-музыка».




*Фота Кастуся Дробава*

*Зборнік вершаў Якуба Коласа, які Пётр Клімук браў у космас.*

На выстаўцы «Зорнае неба» прадстаўлена больш як 40 работ Івана Міско: скульптуры, фота, эскізы, медалі. Наведвальнікі могуць пабачыць не толькі мадэлі помнікаў героям касмічных палётаў, але і фотапартрэты Пятра Клімука, Уладзіміра Кавалёнка, Аляксея Лявонава, Валянціны Церашковай і іншых касманаўтаў з асабістага архіва народнага мастака. Прадстаўлены тут і бюст першага касманаўта Юрыя Гагарына, які пасля быў узяты за аснову помніка. Гэта адзіная скульптура касманаўта, якую Іван Міско ляпіў пасмяротна. Багата на выстаўцы памятных медалёў у гонар замежных касманаўтаў — амерыканца Джона Фабіяна, француза Жана Лу Крэцьена і Андрэ Дээ, чэха Уладзіміра Рэмека. Экспануюцца і эскізы малюнкаў першага кітайскага касманаўта Яна Лівэя, японскага — Таёхіра Акіяма, венгерскага — Берталана Фаркаша.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2511.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.04.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1474.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
14016